Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4773) 20 чэрвеня 2014 г.


## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў і гасцей XIV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі з яго адкрыццём. «Гэты прадстаўнічы культурны форум з гонарам выконвае пачэсную місію развіцця і папулярызацыі айчыннай літаратуры і музычнага мастацтва, — гаворыцца ў віншаванні. — На сцэнічных пляцоўках Маладзечна выступаюць самыя знакамітыя артысты, аб'яднаныя любоўю да роднага слова і песні. Адной з незабыўных старонак з'яўляецца конкурс маладых выканаўцаў, які адкрыў многім майстрам беларускай эстрады шлях на вялікую сцэну».

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Беларусі Арнольда Памазана з 75-годдзем. «Створаныя Вамі вобразы кранаюць сэрца адданасцю жыццёвай праўдзе, адлюстраваннем найлепшых рыс народнага характару і псіхалагічнай глыбінёй, — адзначана ў віншаванні. — Спектаклі з Вашым удзелам упрыгожваюць рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і карыстаюцца нязменным прызнаннем гледачоў розных пакаленняў».

✔ Пленум Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі з удзелам першага намесніка Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Радзькова адбыўся ў Мемарыяльнай зале сталічнага Дома літаратара. «Пісьменнікі — гэта аўдыторыя, закліканая выказваць свае думкі публічна. Вы павінны перадаць чытачу сваю энергетыку, пісьменніцкую культуру», — падкрэсліў А. Радзькоў падчас сустрэчы з творцамі.

✔ Амаль 300 артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі бяруць удзел у штогадовым фестывалі «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў», які праходзіць у Нясвіжы 20 — 22 чэрвеня. Высокае мастацтва публіцы прадэманструюць оперныя выканаўцы, артысты балета, сімфанічны аркестр і хор. Музычнае свята пройдзе на некалькіх пляцоўках: ва ўнутраным двары і тэатральнай зале замка, гарадской Ратушы, а таксама ў касцёле Божага Цела.

✔ 23 чэрвеня ў вячэрнім эфіры тэлеканала «Беларусь 1» Агенцтва тэленавін Белтэлерадыёкампаніі сумесна з дзіцячым хорам рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прадставіць праект «Яны спявалі за Радзіму», прымеркаваны да 70-годдзя беларускай наступальнай аперацыі «Баграціён» — найбуйнейшага вызваленчага руху ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Усяго гледачы ўбачаць 10 фільмаў. Пачатак — у 22.10.

✔ У гэты ж дзень на тэлеканале «Беларусь 3» адбудзецца прэм'ера гістарычнай сагі «Шляхта. Брутальная гісторыя». Гэта чарговая праца аўтарскага калектыву Агенцтва тэленавін на чале з Міхасём Равуцкім з серыі вядомых гістарычных цыклаў. Дарэчы, чатыры праекты ў 7 частках — «Слуцкія паясы. Тайныя знакі», «Радзівілы. Таямніцы сям'і», «Нацыянальная дылогія. Статут ВКЛ», «Нацыянальная трылогія. Герб. Гімн. Сцяг» — сталі лаўрэатамі спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва. Першая серыя пачнецца ў 19.10.





Фота Кастуся Дробава

# На дачу, да Быкава!

*Загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Гулева ў кабінеце Васіля Быкава звяртае ўвагу першых наведвальнікаў на кнігу з прысвячэннем Быкаву.*

Мноства карцін, намаляваных гаспадаром дома і падораных яму сябрамі. Таршэр пад зялёным абажурам, друкарка, камін, утульнае крэсла-качалка, драўляная мэбля ў сталовай. На сценах кабінета і маленькай спальні — простыя шпалеры, на мансардзе — шмат сонца. Кнігі на паліцах, на стале — скрынка з цюбікамі фарбы. Стары каляндар, а побач — расклад аўтобуса на Мінск. Такім гэты дом быў пры жыцці гаспадара, народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Літаральна ўчора, 19 чэрвеня, у 90-ы дзень нараджэння Васіля Уладзіміравіча, дзверы для наведвальнікаў расчыніў філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры — «Музей-дача Васіля Быкава». Ён знаходзіцца ў пасёлку Ждановічы-6 па адрасе: вуліца Вінаградная, 62.

Двухпавярховы дом агульнай плошчай 104 квадратныя метры пісьменнік пабудаваў у 1984 годзе. Менавіта тут ён мог адпачываць ад гарадской мітусні, прымаць блізкіх сяброў, маляваць, займацца аўтамабілем у гаражы. Два гады таму ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна перадала дачу ва ўласнасць дзяржавы. Было прынята рашэнне адкрыць тут музей.

— Гэты музей асаблівы. Ён мемарыяльны, — распавядае дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч. — Мы пакінулі ўсе прадметы, што былі ў доме пры жыцці Васіля Уладзіміравіча, — ад мэблі да сувеніраў, мастацкіх работ, нават прадметаў побыту. Дадалі яшчэ некаторыя матэрыялы. Яны паказваюць Васіля Быкава як чалавека, які вельмі любіў маляваць, нават замест дзённікавых тэкставых запісаў рабіў дзённікі-малюнкі.

Рашэнне захаваць дачу Васіля Быкава ў амаль нязменным стане беларускія спецыялісты музейнай справы прынялі пасля сустрэчы з латышскімі калегамі. Тыя распавядалі пра свае мемарыяльныя музеі і з задавальненнем адзначалі, што іх папярэднікі пакінулі прастору максімальна нязменнай. Праз гады гэта набывае асаблівы сэнс…

Думаецца, сэнс гэта мае ўжо сёння. Калі заходзіш у кабінет, бачыш друкарку на стале, лямпу, пад святлом якой ён працаваў, кнігі, што пісьменнік любіў гартаць (некаторыя з іх нават з аўтографамі аўтараў), то сам вобраз творцы з «голасу аўтара» кніг і партрэтаў у падручніках ператвараецца ў жывога чалавека, які калісьці быў тут.

У музеі-дачы Васіля Быкава побач з мемарыяльнымі рэчамі вельмі карэктна прадстаўлены экспазіцыйныя комплексы, якія расказваюць пра жыццё пісьменніка, звязанае ў першую чаргу з гэтым домам. Экспануюцца быкаўскія малюнкі, накіды, зробленыя алоўкам у шматлікіх блакнотах, толькі крыху павялічаныя. Змешчаныя і тыя, на якіх адлюстраваны аўтамабіль. У музейную прастору ператвараецца і гараж пісьменніка. Цяпер тут можна пабачыць своеасаблівую карту дарог, на якой пазначаныя асноўныя кропкі, дзе бываў Васіль Уладзіміравіч: яго родныя Бычкі, Гродна, Мінск, востраў Сахалін, дзе служыў пісьменнік, гарады, куды ён трапляў падчас камандзіровак. Такі крок таксама зроблены не выпадкова. Быкаў — адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, які сур'ёзна цікавіўся аўтамабілямі, ведаў, як яны працуюць. Пра гэта сведчыць мноства спецыяльных кніг для аўтамабілістаў, якія і сёння стаяць на адмысловай паліцы ў гаражы.

Варта падкрэсліць, што «Дача-музей Васіля Быкава» сёлета працуе толькі па кастрычнік. Наступнай вясной, калі пачнецца чарговы дачны сезон, дом Васіля Уладзіміравіча зноў запросіць у госці. Паводле задумкі, наведвальнікі пабачаць крыху змененую экспазіцыю, што прыадкрые іншыя старонкі біяграфіі і творчасці Васіля Быкава.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Пашырым межы душэўнасці

Нагодай для сустрэчы з паэтэсай, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Інай Санінай (сапраўднае імя — Маіна Іванаўна Арцішэўская-Ерусалімчык) стаўся сёлетні выхад у айчынным выдавецтве «Харвест» яе зборніка вершаў і паэм «Дорогами судьбы» (серыя «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі»). Пра гэтае выданне, а таксама пра лёс рускамоўнай літаратуры ў далёкім замежжы — наша гутарка з аўтарам.



*Фота з сайта www.thetimejoint.com*

**— Як рэалізуюцца стасункі беларускай і амерыканскай літаратурных грамадскасцей?**

— Пачну з расповеду пра сябе. Я беларуска (пісьменніца нарадзілася ў пасёлку Высокае Віцебскай вобласці. — **Я. Я.**), але ў Саюз пісьменнікаў была прынятая на амерыканскай зямлі. Па адукацыі — архітэктар. Член Саюза архітэктараў Беларусі. Кандыдат навук, былы дацэнт архітэктурнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер — Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт), спявала ў опернай студыі Дома культуры прафсаюзаў, якая пазней атрымала назву Оперны народны тэатр. У 1979 годзе з'ехала ў ЗША, дзе спачатку працавала чарцёжнікам. Вершы першапачаткова пісала не для публікацый, выступала перад эмігранцкай публікай. З цягам часу, пасля з'яўлення некалькіх паэтычных зборнікаў, мяне пачалі запрашаць у Беларусь. Тут я заўсёды адчуваю, што прыехала да сяброў. Пастаяннай пляцоўкай сустрэч з чытачамі стала Мінская абласная бібліятэка імя А. Пушкіна. Зборнік «Дорогами судьбы» — мая восьмая кніга. Несумненна, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец праводзіць каласальную працу і з замежнымі членамі гэтай грамадскай арганізацыі, і з рускамоўнымі творцамі. Кіраўніцтвам СПБ арганізоўваюцца выступленні аўтараў перад рознымі аўдыторыямі, ладзяцца паездкі па ўсіх рэгіёнах Беларусі. Для краіны гэта вялікі плюс. А ў Лос-Анджэлесе, дзе я жыву, актыўна працуе Рускі літаратурны клуб, членам якога грамадская арганізацыя *Russian Social Community* бясплатна прадастаўляе залу для выступленняў. Я з'яўляюся і сябрам нью-ёркскага Клуба рускіх пісьменнікаў. У Каліфорніі на рускай мове выдаецца «Международный альманах поэзии», дзе друкуюцца расійскія, украінскія, еўрапейскія паэты, а таксама беларускі творца Анатоль Аўруцін.

**— Ці змянілася штосьці ў кнігавыданні?**

— Калі казаць пра Лос-Анджэлес, то тут даводзіцца выдаваць кнігі або за свой кошт, або за спонсарскія сродкі. Але ў той жа час вельмі радуе, што паэзія жыве і працягвае жыць. Так, у нямецкім горадзе Дзюсельдорфе з 2002 па 2012 год на высокім узроўні праходзіў 10-гадовы Міжнародны паэтычны турнір, які скончыўся выданнем «Залатой кнігі» выбраных твораў яго пераможцаў. У гэты калектыўны зборнік увайшлі і мае вершы.

**— Якія перспектывы развіцця беларуска-амерыканскіх літаратурных стасункаў вы бачыце? Што яшчэ можна зрабіць для ўмацавання нашых сувязей?**

— Повязі, якія нас яднаюць, вельмі тонкія: яны трымаюцца на чыстым энтузіязме. А больш моцнымі стануць тады, калі беларускі бок пашырыць межы душэўнасці ў дачыненні да эмігрантаў.

**— А наколькі зацікаўлена літаратурай сучасная моладзь? Ці наладжаны кантакт паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі ў ЗША?**

— Маладыя амерыканцы сёння даволі прагматычныя і рупяцца пра набыццё спецыяльнасці, арыентуючыся на тыя прафесіі, якія, згодна з іх меркаваннямі, мусяць прыносіць добры грашовы прыбытак. Літаратурай з іх цікавяцца адзінкі, якія з задавальненнем наведваюць творчыя вечарыны, канцэрты ды культурныя мерапрыемствы. На мой погляд, каб па-сапраўднаму прывабіць моладзь да мастацтва слова, трэба як мага часцей праводзіць сустрэчы з прадстаўнікамі старэйшага пісьменніцкага пакалення, здольнымі з адкрытай душой звярнуцца да маладых, каб такім чынам паспрыяць выхаванню ў іх любові да прыгожага. Для эміграцкіх дзяцей пры *Russian Social Community* працуюць гурткі і клубы, у межах якіх рэгулярна ладзяцца бацькоўскія вечары.

**— У Беларусі вас ведаюць не толькі як паэтэсу, але і як публіцыста. Пра што пішаце апошнім часам?**

— У Каліфорніі ўжо больш як дваццаць гадоў ажыццяўляецца выпуск рускамоўнага штотыднёвіка «Панорама», дзе друкуюцца і мае артыкулы, прысвечаныя культурнаму жыццю эміграцыі, псіхалогіі эмігрантаў, праблеме адаптацыі ў іншай краіне.

**— Падзяліцеся, калі ласка, творчымі планамі.**

— Я працую над вялікім мастацкім празаічным творам (мяркую, што гэта будзе аповесць). Тэма — акупацыя і гісторыя савецкага перыяду.

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

*Акцыя*

# І клікала слова ў бой

Акцыя пад такой назвай стартавала на Міншчыне, у Пухавіцкім раёне. Прымеркавана яна да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзя Вялікай Перамогі.

Заснавальнікі акцыі — Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Мінская абласная арганізацыя Беларускага саюза журналістаў, газеты «Звязда» і «Мінская праўда». У межах творчага праекта журналісты і пісьменнікі наведаюць тыя адрасы літаратурнай памяці, што звязаны з жыццём і творчасцю пісьменнікаў-франтавікоў, паэтаў і празаікаў, якія адстойвалі свабоду, незалежнасць у шэрагах партызан.

На Пухавіччыне ўдзельнікі творчага дэсанта пабывалі ў Мар'інай Горцы, у літаратурным пакоі Алеся Бачылы, які знаходзіцца ў мясцовай карціннай галерэі, на месцах партызанскай славы, у вёсках Балачанка, Падбярэжжа, звязаных з памяццю народнага песняра Якуба Коласа. У раённым краязнаўчым музеі ў вёсцы Блонь правялі краязнаўчыя чытанні.

— Мы ставім перад сабой мэту расказваць пра творцаў, якія ў час вайны праявілі мужнасць, якія помнілі, што і слова павінна быць зброяй, — дзеліцца задумамі, звязанымі з акцыяй, галоўны рэдактар «Мінскай праўды» Мікалай Літвінаў. — Пухавіччына — гэта ваенныя лёсы Алеся Бачылы, Міхася Пянкрата, Макара Паслядовіча, Ларысы Кароткай… У 1944 годзе на акупіраванай тэрыторыі паблізу Рудзенска была надрукавана кніга паэта і партызана Усевалада Сабліна. У партызанскіх атрадах змагаліся Яніна Крайнік, Леанід Амбах, Міхась Карнейчык. Чаму пра гэта не распавесці сённяшняй моладзі? Спадзяёмся, што па выніках акцыі, якая пройдзе ў многіх раёнах Міншчыны, пабачыць свет і кніга «Слова клікала ў бой».

Сваімі развагамі на Пухавіччыне дзяліліся з чытачамі, мясцовымі краязнаўцамі намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Алесь Бадак, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава, першы намеснік галоўнага рэдактара «Мінскай праўды» Сяргей Грыб, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Браніслаў Зубкоўскі, Мікалай Гурын.

**Сяргей ШЫЧКО**

*Імпрэзы*

# Фестываль. Беларусь. Паэзія.

«Каб любіць Беларусь…» — гэты вядомы радок Алеся Ставера, а сёння слоган нацыянальнага тэлеканала «Беларусь 3», стаўся назвай літаратурнай гасцёўні, якая ладзілася 14 чэрвеня ў Палацы культуры горада Маладзечна ў межах XIV Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні.

Вядучыя імпрэзы — творцы Таццяна Сівец і Навум Гальпяровіч — запрасілі ў свет высокага мастацтва. «Наша паэзія — самая песенная, а песня — самая паэтычная», — зазначыў Навум Гальпяровіч на пачатку мерапрыемства, а вершаваныя радкі сучасных беларускіх аўтараў толькі пацвердзілі выказванне паэта.

Каб любіць Беларусь, трэба перш за ўсё любіць маленькую радзіму. Таму паэты Мікола Шабовіч і Рагнед Малахоўскі прысвячалі свае творы роднай Мядзельшчыне, з радкоў Уладзіміра Мазго паўставалі зэльвенскія краявіды, а паэтэса Іна Фралова вершам прызналася ў любові вёсачцы Шыпкі, што на Вілейшчыне.

Зразумела, знайшлося месца і філасофскім роздумам, і вершам пра каханне. Паэт, аўтар паэтычных пародый Анатоль Зэкаў, як заўсёды, дадаў у сур'ёзнасць мерапрыемства «лыжку дасціпнага гумару», заваяваўшы сэрцы гледачоў паэтычнай пародыяй «Адналюб». Паэтэса, кампазітар, спявачка, кіраўнік гарадскога літаратурнага аб'яднання «Агмень» маладзечанка Таццяна Атрошанка прымусіла задумацца над сэнсам жыцця.

Цёпла былі ўспрыняты публікай радкі Алеся Бадака, які, нягледзячы на занятасць, знаходзіць час на ўласную творчасць, а таксама Аліны Легастаевай — паэтэсы, чыя любоў да Беларусі праверана адлегласцю і часам.

Не абышлося, вядома, без музыкі. Паэт і выканаўца Кастусь Цыбульскі ўзняў настрой гледачоў песняй-пажаданнем, спявачка Кацярына Лазука прадставіла прэм'еру «Танец развітання» (словы Алеся Бадака, музыка Алены Атрашкевіч).

Аматараў паэзіі сярод іншага цікавіла, што натхняе аўтараў на творчасць, якія літаратурныя густы яны маюць, ці дапамагае паэту-песенніку знаёмства з вядомымі выканаўцамі «прасунуць» новую песню.

**Аксана ЯРАШОНАК**

# Творчы самалёцік

Часопіс «Бярозка» распачаў рэкламную кампанію. У Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы творчы дэсант у складзе бярозкаўцаў Генадзя Аўласенкі, Аксаны Ючкавіч і Віктара Лупасіна, а таксама намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Тамары Сарачынскай і супрацоўніц Выдавецкага дома «Звязда» выступіў перад вучнямі пачатковых класаў.

Мэтай творчага дэсанта было зацікавіць жэўжыкаў адноўленай «Бярозкай», «пілот» якой выходзіць у жніўні. А таксама ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай» заахвоціць хлопчыкаў і дзяўчынак да чытання дзіцячых кніг, якія выходзяць у Выдавецкім доме «Звязда».

Спачатку юнае пакаленне крытыкавала выступоўцаў, але верш пра шаблязубага тыгра перамяніў глядацкі настрой, і далей толькі і было крыткі, што: «А чаму такі кароткі верш?» або: «А напішыце пра чалавека-павука!» Калі ж пачалася гульня ў загадкі Генадзя Аўласенкі, то ёю захапілiся літаральна ўсе. А перамагла дружба: кожны атрымаў прыз — самалёцік з шакаладным грузам.

**Віктар ЛЕАНІДАЎ**

*Вытокі*

# Будуць разам

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылося «пасвячэнне ў творцы»: нядаўна абраныя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі ўрачыста атрымалі членскія білеты.

Традыцыя вітаць новых членаў Саюза ў Коласавым доме невыпадковая. «Пры жыцці класіка тут панавала творчая атмасфера: збіраліся паэты, мастакі, вучоныя. Таму тут захоўваецца асаблівая аўра, сапраўдны творчы дух. Паколькі сёння вы атрымліваеце ганаровыя сведчанні вашага таленту, вы свае ў гэтым доме», — вітала гасцей дырэктар установы Зінаіда Камароўская.

Новыя Коласавы паплечнікі (іх сёлета пакуль што пяць) — асобы рознага ўзросту, творцы рознай жанравай скіраванасці. Алена Турава — сцэнарыст, паэтэса, празаік, піша для дзяцей і дарослых. Сяргей Волкаў — аўтар фальклорна-этнаграфічных краязнаўчых выданняў, да таго ж — вядомы мастак-ілюстратар, які афарміў больш як 300 кніг. Алена Шчарбакова — паэтэса, для якой абранне ў прафесійны саюз — нагода паспрабаваць здольнасці і ў прозе. Валерыя Саротнік — таксама паэтэса, празаік, перакладчыца («будучыня нашай літаратуры», паводле старшыні МГА СПБ Міхася Пазнякова). Уласная творчасць свядома ўспрымаецца ёю як працяг творчага «следу» бабулі, славутай паэтэсы Нэлі Тулупавай. Тамара Лявішка — даследчыца, поўная імкнення захаваць у памяці нашчадкаў найбольш значныя з'явы хрысціянскай культуры ў Беларусі, стваральніца біяграфічнай серыі, прысвечанай Сафіі Слуцкай.

Членства ў СПБ для ўсіх іх не толькі гонар і публічнае прызнанне таленту (хоць і гэта значыць вельмі многа). Галоўнае — адчуць еднасць з калегамі, аднадумцамі. Працаваць так, каб даносіць свае набыткі да як мага большай колькасці чытачоў, да таго ж мець магчымасць пастаянных непасрэдных кантактаў з імі. У кантэксце гэтых вызначальных патрэб М. Пазнякоў і распавёў пра асноўныя кірункі дзейнасці арганізацыі, пра яе структуру, прынцыпы працы, падкрэсліў галоўны пісьменніцкі абавязак: «Добра пісаць, адчуваючы адказнасць перад чытачом».

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Між іншым*

# Чытаем верш па-беларуску!

Так называецца патрыятычная акцыя, якую прымеркавала да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага.

Мэта яе — звярнуць увагу маладога пакалення на гэту значную дату, абудзіць жаданне ведаць, паважаць гісторыю, культуру і мову сваёй Радзімы.

Вядомыя жыхары нашага горада, члены Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі прачытаюць па адным вершы беларускага аўтара на тэму Вялікай Айчыннай вайны і пагутараць з навучэнцамі сярэдніх школ, студэнтамі, прадстаўнікамі розных сацыяльных груп насельніцтва пра значнасць гэтай падзеі.

Акцыю падтрымлівае Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт. У яе ўрачыстым адкрыцці ўзяў удзел старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар.

**Анатоль МІКАЛАЕЎ**

# Вяртанне праз 165 гадоў

Выстаўка кніг, прысвечаная 165-годдзю з дня нараджэння выдатнага пісьменніка, літаратара, перакладчыка Івана Кандрацьева, адкрылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Пісьменнік нарадзіўся ў Вілейскім раёне, але доўгі час жыў у Вільні і Маскве. Яго імя стала вядома шырокаму колу грамадскасці дзякуючы доктару культуралогіі прафесару Аляксандру Смоліку, які правёў грунтоўнае навуковае даследаванне і падрыхтаваў манаграфію «Божы дар Івана Кандрацьева».

А. Смолік распавёў, што ягоныя навуковыя пошукі распачаліся пасля азнаямлення з кнігай «Александръ Сергеевичь Пушкинъ, его жизнь, смерть и сочинения» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Пасля была праца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільнюсе, Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве…

На выстаўцы былі прадстаўлены прыжыццёвыя выданні І. Кандрацьева, навуковыя працы, прысвечаныя даследаванню творчай спадчыны літаратара, а таксама выданні з асабістай бібліятэкі А. Смоліка.

Літаратурная спадчына Кандрацьева ўражвае: ім напісаны мастацкія творы на гістарычныя тэмы: «Бич Божий», «Великий разгром», «Салтычиха», «Драма на Лубянке», «Божье знамение» (апошнія два прысвечаны падзеям 1812 года) ды інш., падрыхтаваны гістарычны даведнік «Московский кремль» і вялікі гістарычны нарыс «Седая старина Москвы», які перавыдаваўся вялікімі тыражамі ў 1999, 2006 і 2008 гадах. Ён аўтар шэрагу драматычных твораў, паэтычных зборнікаў «Думы и были» і «Под шум дубрав», паэм «Полтавская певунья» і «Альманзор», знакамітых песень «По диким степям Забайкалья» і «Очаровательные глазки»…

Апрацаваў вершаваныя народныя казкі «Снегурочка», «Сивка-бурка, вещая каурка», падрыхтаваў буквар, па якім можна самастойна навучыцца чытаць і пісаць, выконваць нескладаныя матэматычныя вылічэнні. А ў зборніку «Дома и на воздухе: детские игры и забавы» І. Кандрацьеў сабраў і сістэматызаваў дзіцячыя гульні і забавы.

Сёння творчасць Івана Кандрацьева ўвайшла ў актыўны даследчы кантэкст беларускіх навукоўцаў: у маі 2013 года ў Вілейцы прайшлі Першыя Кандрацьеўскія чытанні, на якіх прадстаўлены даклады беларускіх гісторыкаў, культуролагаў, філолагаў, краязнаўцаў. У 2015 годзе яны пройдуць у Маскве пры падтрымцы Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Падрыхтаваны праект памятнага знака, які плануецца ўсталяваць на радзіме пісьменніка — у вёсцы Каловічы.

**Павел САПОЦЬКА**

*Стасункі*



*Выступае Станіслаў Валодзька.*

У латвійскім горадзе Екабпілсе адбылася творчая сустрэча з беларускім паэтам Станіславам Валодзькам, куды разам з ім прыехалі яго сын Алег і спявак Павел Прозар. Вяла імпрэзу старшыня мясцовага беларускага таварыства «Спатканне» Валянціна Даршчонак.

# Творчыя сустрэчы ў Латгаліі

Сябры «Спаткання» Яўгенія Бараноўская, Зінаіда Коткіна, Артур і Ліза Паўлавы, Міша Прановіч чыталі творы паэта, а песні на яго вершы на беларускай, рускай і польскай мовах выконвалі беларускі народны ансамбль «Завіруха» (мастацкі кіраўнік Тамара Бухціярава), рускі ансамбль «Барыня» (мастацкі кіраўнік Алёна Агафонава), польскі ансамбль «Rodaci» (мастацкі кіраўнік Івета Берзіня) і Павел Прозар. Артысты «Завірухі» праспявалі таксама латышскія народныя песні «А куды ж ты?» і «Ай-я, жу-жу», перакладзеныя С. Валодзькам на беларускую мову.

Сустрэчу з творцам наладзіў і Цэнтр беларускай культуры ў г. Даўгаўпілсе, які ўзначальвае Жанна Раманоўская. З прывітальным словам да прысутных звярнуўся генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Віктар Гейсік, адзначыўшы, з якой любоўю паэт піша пра родную зямлю і ўзгадвае дзяцінства, адначасова аддаючы даніну павагі латвійскай зямлі, на якой цяпер жыве і працуе.

Старшыня рыжскага беларускага таварыства «Прамень», дэпутат Сейма Латвіі Алёна Лазарава падарыла С. Валодзьку нядаўна выдадзены двухтомнік «Руская паэзія Латвіі», дзе змешчана падборка яго вершаў у перакладзе на рускую мову. Завяршылася вечарына песняй «Беларускі дом» на словы С. Валодзькі, якая стала гімнам беларускай дыяспары Даўгаўпілса.

**Людміла СІНЯКОВА, сустаршыня беларускага таварыства «Уздым»**

# «Бярозка». Перазагрузка

Што стаіць за простай, але такой знаёмай, нават роднай, назвай «Бярозка»? Ні многа ні мала 90 год існавання, выбітныя пісьменнікі ў рэдактарах, у тым ліку Уладзімір Дубоўка і Рыгор Барадулін… Безліч аўтараў, твораў, чытачоў. «Бярозка» выхавала не адно пакаленне беларусаў. У 2012- м легендарная «Бярозка» стала выходзіць пад вокладкай часопіса «Маладосць».

А цяпер — увага! У жніўні выходзіць вынік «перазагрузкі» — пілотны нумар аднаўленай «Бярозкі»! Стваральнікі яе, супрацоўнікі рэдакцыі «Маладосці», вельмі пастараліся, каб часопіс займеў выгляд і змест, здольны прыцягнуць цяперашнюю падлеткава-дзіцячую чытацкую публіку. Пабачыць аналаг «пілота» вы зможаце ў восьмым, жнівеньскім, нумары «Маладосці».

Імкнучыся быць на адной хвалі са сваімі чытачамі-тынэйджарамі, «Бярозка» цвёрда трымаецца напрацаваных за стагоддзе традыцый. Яна, як і раней, з'яўляецца найперш літаратурным часопісам, у якім друкуюцца творы і знакамітых пісьменнікаў, і чытачоў. «Бярозка» застаецца ўнікальнай пляцоўкай літаратурнай вучобы для самых юных творцаў Беларусі.

Новая «Бярозка» ўзбагацілася нелітаратурнымі рубрыкамі, прысвечанымі самым розным аспектам няпростага падлеткавага жыцця. Тут і цікавыя звесткі пра сучасную культуру, вядомых і невядомых (але заўсёды цікавых) людзей, прапановы карыснага і прыемнага баўлення часу, парады псіхолагаў, абмеркаванні актуальных тэм... Калі вы не забудзецеся своечасова выпісаць восьмую «Маладосць», то на ўласныя вочы пабачыце і ацэніце адноўленую «Бярозку».

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

# Летам — у бібліятэку

Здаўна вядома: у паэтычных радках можна знайсці адказы на ўсе свае пытанні, якія хвалююць душу. Недарэмна ж кажуць: «Хто вершы чытае і складае, той добрае сэрца мае!»

Менавіта так мяркуе і загадчыца Гомельскай гарадской бібліятэкі № 11 — філіял № 8 Антаніна Уварава. Таму рэгулярна арганізоўвае прэзентацыі новых выданняў, запрашае мясцовых літаратараў.

У маі з нагоды 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў адбыліся змястоўныя сустрэчы з вайскоўцамі вайсковай часткі 5525. Пазней — са школьнікамі, якія праходзяць практыку ў вучэбным Цэнтры падрыхтоўкі дапрызыўнікоў. Перад вайскоўцамі выступалі Васіль Ткачоў і Ганна Атрошчанка. А вось у госці да хлопцаў і дзяўчат завіталі ветэраны вайны. Бібліятэкі вайсковай часці і вучэбнага Цэнтра дапрызыўнікоў папоўніліся цікавымі выданнямі, якія падарылі чытачы гарадской бібліятэкі.

**Ларыса СЯМЁНАВА**

# На паклон да Пушкіна

Свята паэзіі, прысвечанае 215-годдзю з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, адбылося 6 чэрвеня ў Мінску каля помніка вялікаму паэту. Арганізатарамі імпрэзы сталі Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, грамадская культурна-асветніцкая арганізацыя «Наша Русь», Фундаментальная бібліятэка і Саюз жанчын Белдзяржуніверсітэта.

Прысутныя ўсклалі кветкі да помніка, чыталі вершы А. С. Пушкіна, у тым ліку і ў перакладзе на беларускую мову, творы, прысвечаныя класіку. Перад шматлікімі слухачамі выступілі паэты Валянціна Паліканіна, Мікола Шабовіч, Мікалай Іваноў, Аліна Легастаева, Таццяна Лейка, Вадзім Спрынчан, Дзмітрый Пятровіч, Іна Саніна, якая прыехала ў Мінск з Лос-Анджэлеса, а таксама вучні СШ № 36.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Уладзіміру Аляксеевічу Лазару з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.

## Віктар ЯРАЦ



### Ірына

*Імя гучыць як арыя: Ірына,*
*дзе кожны гук пад небам — самы шчыры.*
*Расой світальнай вымыецца поле*
*не для таго, каб свет пабраўся з болем.*
*І дзень асенні змрочны ці зімовы*
*асвеціць светлынёй вясновай слова.*
*На адрас твой світанні шлюць вітанні,*
*на голас — ён працяг адвечнай тайны.*
*А ноччу зорнай вышываюць зоры*
*тваё імя загадкавым узорам...*

### Рака

*Спяшаецца рака данесці мору*
*не змору, не дакор і не адчай —*
*свой голас, поўны прагі непакоры,*
*і дух, што*
*з небам рух вады вянчаў.*

*На перакатах, на вірах глыбокіх*
*варожыць час пра што і пра каго,*
*тасуючы і зоры, і аблокі*
*між нізкіх і высокіх берагоў?*

*Шліфуючы каменьчыкі ў прадонні,*
*гаворыць кожны міг:*
*— Не наракай*
*на лёс без адпачынку,*
*лёс бяссонны, —*
*каму — вякоў нястомніца —*
*рака?*

### Белая балада

*Мама, мама, дай сарочку белую,*
*дай сарочку новенькую мне.*
*Будзе луг дзяўчатамі захмелены*
*(там чмялям так соладка ў траве).*
*— Вось, сынок, бяры сабе на радасць!*
*Ткалася ж на кроснах палатно*
*з лёну, што пад сонцам і пад градам*
*рос і цвіў з блакітам заадно.*
*Як жа ранак промнямі і ў росах*
*Ззяе пераліваміі наўкол!*
*Як жа свежасцю дыхнуць пракосы,*
*што ўсцілаюць за ракою дол!*
*І каго там позіркам прывецiць*
*сэрца трапяткое ў мураве?*
*І чые залётны ў поўдзень вецер*
*косы варажбой сваёй кране?*
*…Хлопец у кашулі снежна-чыстай*
*зацугляў гарачага каня*
*і галопам да ракі імчыцца*
*напярэймы маладога дня.*
*А вада ў рацэ туман світальны —*
*белы, нібы неба сырадой,*
*выпіла і плешча прывітальна*
*светлаю і цёмнаю вадой.*
*Верны сябра бела-чорнай масці*
*фыркае на быстрыні рачной.*
*Повад*
*закруціўся*
*на запясці*
*ці ля шыі юнака пятлёй?*
*І юнак з чупрынаю густою*
*тоне, захлынаецца без сіл.*
*Белы сокал кружыць над вадою,*
*і згасае белы небасхіл.*
*У кашулі белай, што матуля*
*шыла сыну для вясёлых дзён,*
*жоўты жвір навек яго атуліць,*
*жоўты ахіне навечна сон.*
*У матулі ў валасах дачасна —*
*чорных, нібы галчына крыло, —*
*белымі агнямі*
*ўспыхнуць пасмы —*
*болю незагойнае святло.*

### Сыходзяць салдаты

Памяці Міколы Грынчыка

*Сыходзяць салдаты —*
*апошнія з тых,*
*каму на пілотці, на гімнасцёркі*
*вятрамі пасеяўся пыл франтавых*
*дарог перасмяглых —*
*ад ростаняў горкі.*
*Сыходзяць у вечны,*
*глыбокі спакой*
*маўклівай зямлі,*
*баранілі якую.*
*Услед ім хусцінкай*
*махне снегавой*
*зіма, а вясною — зязюля кукуе.*
*І ў небе праводзін плывуць галасы*
*за імі зусім не анёлаў біблейскіх —*
*там пух аблачынак*
*ляціць за лясы —*
*за водгукам залпаў*
*дывізіі энскай.*

* * *

Вячаславу Рагойшу

*У спякоту бусляняты ў гнёздах*
*моляць, як умеюць, вышыню*
*дзюбамі раскрытымі, каб поўдзень*
*хоць адной хмурынкай агарнуў.*
*І, пачуўшы іх, пад вечар дзесьці*
*над барамі свежасцю дыхне*
*неба, каб у свет жывы данесці*
*не пустой гуллівасці павеў.*
*І на дол, на курганы на стромах,*
*на магілы продкаў дождж густы*
*паліецца музыкай знаёмай,*
*што чые прыгадвае гады?*

### Камень

*Камень, камень, на якой мяжы*
*быў ты цвёрдым знакам адчужэння,*
*вартаваў якія рубяжы*
*ў полі, дзе дажджы паілі зерне?*
*Час цябе спіхнуў у роў калі —*
*не адкажуць птушкі, і аблокі,*
*і ручай, што светла гаманіў,*
*як ішоў дамоў з дарог далёкіх.*
*Перуны бліскучыя нажы*
*на табе заточвалі вякамі.*
*Вецер тут рамонкам варажыў —*
*ногі прытаміў, прысеў на камень.*



*Фота Кастуся Дробава*

## Барыс БЕЛЯЖЭНКА



***

*Таемны голас разбудзіў мяне,*
*і я ўтаропіўся у вочы ночы.*
*Там выскал цемрадзі, нібыта воўчы,*
*І адзінокі гэты галасочак…*
*Яго пачуўшы, сэрца ўстрапяне,*
*Ён штосьці гаманіў мне, ледзь чутно.*
*Не слыхам — сэрцам счуў я мілы голас,*
*што плыў праз ціш ад мамінай магілы.*
*Пахмурна*
*хмар яго трымалі крылы,*
*і ахінаў змакрэлы вецер ноч.*

***

*Не радуйся бядзе чужой,*
*а спачуваннем азарыся,*
*тады пашлюць нябёсаў высі*
*таемны знак спагады свой.*

***

*Святло таму, хто ў цемры не панік,*
*хто мудра ўсмешкай цемру прывітае,*
*а чарната, як лёд вясною, тае,*
*як сонца, душы асвячаюць дні.*

***

*Высокім стаў.*
*Зірні, стаіш на чым:*
*няўжо не бачыш*
*і планеты-маці?*
*Пыхлівасць вокны*
*выбівае ў хаце.*
*Разважлівы спакой*
*важней за чын.*

***

*Званы спяваюць Богу гімн.*
*Зірну на храм, як вінаваты.*
*Жабрак без Бога і без хаты,*
*і свет бязбожны — перад ім.*
*І чарада за чарадой —*
*да храма,*
*па прыступках стромых…*
*Галечы стоенасць і стома*
*бясконцы выткалі сувой.*

## Надзея ПАРЧУК



### Свежаспечаны хлеб

*Шлю пашану зярняці*
*І табе, звонкі серп!*
*З чым твой пах параўнаць мне,*
*Свежаспечаны хлеб?*

*Ці то з водарам родным*
*І зямелькі, і рос,*
*Ці то з сілай нязводнай*
*Неспасціжных нябёс?*

*І твой пах, і цябе я*
*Параўнаю з раллёй,*
*З аржаніцаю спелай*
*І з людской дабрынёй.*

*Бо без гэтага, знаю,*
*Знік бы хлеб на стале.*
*Вось чаму праслаўляю*
*Свежаспечаны хлеб.*

* * *

*То бор, то гай,*
*то палявыя сцежкі*
*Бягуць насустрач хуткаму аўто,*
*І рассыпаюць светлыя усмешкі*
*Валошкі ў гушчы*
*маладых жытоў.*

*А мне ніяк не справіцца з душою —*
*Я патанаю ў чэрвеньскай красе...*
*А вунь і мост над Прыпяццю-ракою —*
*Ён зараз нас*
*праз рэчку пранясе.*

*А там падхопіць лёткая дарога,*
*І, нібы птушка з выраю вясной,*
*Я прылячу да роднага парога*
*І прывітаю*
*кут радзінны свой...*

### Мой ранак ружовы...

*Мой ранак ружовы*
*Са мной павітаўся —*
*Ў абшары вясковым*
*Святлом разаслаўся.*

*Зноў еду я ў госці*
*Сустрэцца з радзімай,*
*А сэрца чагосьці*
*Ў тузе жураўлінай.*

*Напэўна, дом родны*
*Мяне зачакаўся —*
*Гаворкай пяшчотнай*
*Даўно не натхняўся.*

*Дарога наперад*
*Бяжыць і гукае,*
*А ў сэрцайку верад*
*Шчыміць, не сціхае:*

*Як там, пад бярозкай,*
*Спяць мама і тата?..*
*Ці знаюць, што ў вёску*
*Я еду на свята?*

*…Мой ранак ружовы*
*Над лесам палае —*
*Ў абшары вясковым*
*Святло рассціпае...*

# Алесь ВЕТАХ
# Апошняе спатканне з летам
## *Апавяданне*



Суніцы паспелі ў той на дзіва ягадны год рана, нават нечакана і неспадзявана, бо вясна, як ніколі, выдалася цёплай, гарачай. З пачатку красавіка, адразу пасля Дабравесця, сонца ўжо не гуляла, а працавала на поўную сілу: зыркімі праменямі ўзварушвала, абуджала да жыцця змрочна-шэры абшар, струменіла і лілося шчодрым святлом на палі і лугі, бары і гаі, пералескі і паляны, затым пачало моцна прыграваць і пячы-жарыць, быццам улетку. Хутка зямны свет пераўвасобіўся, набыў маладое светла-зялёнае абліччa. Вясна неўпрыкмет адбуяла белай яблыневай квеценню і перакінулася на лета. Больш кароткімі і ціхімі, не гэткімі самазабыўнымі, сталі спевы птушак: ужо з самага ранья іх займаюць бацькоўскія клопаты. І ўсё ж птушыныя галасы абвастраюць увагу ды слых, іх вітальны покліч адганяе кудысьці прэч сонны настрой і заваблівае на волкую лясную сцежку.

Жанчына, пакратаўшы вузельчык на белай у крапінку хусцінцы, ступіла на мяккі мурог, потым спынілася і прымацавала паяском уздоўж таліі доўгі гліняны гарлачык. Чэрвеньскаю світальнаю ранiцай яна зноў прыйшла на сустрэчу з сунічным летам і падрыхтавалася збіраць ягады. Сцежка пры ўзлеску ўвобмірг вывела на добра знаёмую па мінулых гадах палянку. Спадзеў на тое, што і гэтым разам яна будзе ягаднай, спраўдзіўся. Сунічнік аж зіхцеў чырванню. Марыя раптоўна схамянулася: здалося, ён пунсавеў буйнымі кропелькамі крыві, але гэтая мроя-прадчуванне знікла гэтак жа імгненна, як і з'явілася.

Хутка збіраць ягады абедзвюма рукамі Марыя навучылася яшчэ ў далёкім дзяцінстве, калі хадзіла ў лес па суніцы і чарніцы са сваёй бабуляй Зосяй. Ад яе ў спадчыну дастаўся і гэты гарлачык, пацямнелы, з маленькай шчарбінкай пры самай адтуліне. У яго ссыпаць жменяю ягады мо і не вельмі зручна — гарлавіна крыху вузкаватая, — але затое можна спакойна нахіляцца, збіраць лясныя шчадроты і не баяцца пры гэтым, што сабранае раней можна незнарок вытрусіць долу. Яна, тады малая Марыйка, брала ў суніцы збанок ці кошык. Але і сёння памятае, як дужа засмуцілася і плакала, калі нейкім чынам не ўтрымала кошык з ягадамі і той кульнуўся: спелыя чырвоненькія сунічкі апынуліся на траве. Пакуль іх сабрала, дык часу шмат патраціла, да таго ж ручанятамі ледзь не палову ягадак парасціскала. Бабуля Зося побліз суніцы збірала, але Марыйка не адразу прызналася, што выпусціла кошык з рук. Неадноўчы падаў-валіўся і збанок з ягадамі. А вось бабулін гарлачык служыць ёй, як і раней яго гаспадыні: прывязаны за гарлавіну, ён надзейна трымаецца паперадзе на паясніцы і крыху паварочваецца, звісае долу разам з нахілам постаці. Ды калі даўганосы паўнюткі гарлачык, стоячы на ўскрайку палянкі ці паміж мурагу поруч з вядзерцам ці кошыкам, раптам і завальваецца, то з яго высыпаецца не так і шмат ягад, большасць усё ж застаецца.

Марыя схілілася да сунічніку і пачала хуценька, увобмірг здымаць са светла-зялёных кусточкаў-парасонікаў чырвона-пунсовыя бобінкі. Яна порстка церабіла густы ягаднік, кідаючы сунічку за сунічкай у гарлавіну гарлачыка. Некалі Марыя дзівілася, як дужа хутка збірае суніцы ці чарніцы яе бабуля, а цяпер яна сама стала гэткай жа ўвішнай і рупнай ягадніцай. Ды і паставай Марыя падобная да бабулі Зосі: невысокая, танклявая, як бярэзінка, хутчэй нават хударлявая. А яшчэ яна загарэла за лета на сонцы — і гэтая смуглявасць трымаецца на яе целе ледзь не ўвесь год. Нагінацца і збіраць суніцы ёй, Марыі, лёгка, не гэтак, як суседцы Тамары, якая пакутуе праз крывяны ціск, але ўсё роўна амаль штодня выпраўляецца ў лес, каб сабраць колькі кіло сунічнага багацця.

Марыя і Тамара ходзяць у ягады пасобку, толькі ім вядомымі сцежкамі. Хоць яны і суседкі, аднак паміж сабой не сябруюць, але і не варагуюць. У кожнай з іх — свае палянкі і ўзлескі, прагалы і дзялянкі. Здавалася б, колькі трэба той бяздзетнай Тамары з яе мужам суніц, аднак яна ніяк не хоча адстаць ад Дарашэвічыхі, то бок Марыі, якая носіць ягады з лесу цэлымі вёдрамі. «Багатырка» — так кажуць пра заможную Тамару Крупец. Марыя ж праз нястачу грошай мусіць не толькі трымаць гаспадарку, але і круціцца, каб пратрымацца ў гэтым жыцці. Пасля збору яна перабірае ягады і вязе іх на ровары на продаж да шашы «Слуцк — Мінск». Там, побач з паваротkaю на іхні, як цяпер кажуць, аграгарадок, нядаўна абсталявалі невялікі базар — укапалі некалькі дашчаных сталоў і побач з імі лаўкі. Дагэтуль Марыя, як і іншыя зборшчыкі ды гандляры ягадамі, садзілася непадалёк ад шашы, выстаўляючы на яе ўскрайку здабыты лясны скарб.

Назбіраць збанок, два ці вядро суніц — гэта, уласна кажучы, паўсправы. Галоўнае — мець шанцаванне, каб пасля хутка і выгадна прадаць іх. Тады і можна з палёгкаю ўздыхнуць. Аднак не ўсё так спраўджваецца і не ўсё так хутка бывае, як хацелася б. Вось і цяпер Марыя, запаўняючы гарлачык суніцамі і пазіраючы на парожняе пластыкавае вядзерца, думала пра тое, ці будзе сёння спрыяльны дзень для гандлю. А тое, што набярэ яна суніц хутка і шмат, ужо не сумнявалася: адразу ёй выпала пашчырaваць на шчадрадайнай сунічнай паляне.

Ягадны, так бы мовіць, бум захапіў амаль палову аграгарадка. Своеасаблівы бізнес для Марыі трэцяе лета запар стаўся крыніцай дадатковага, а дакладней, асноўнага заробку. Яна, вясковая бібліятэкарка, атрымлівае за сваю працу як кот наплакаў. Грошай плацяць мізар, а яны паўсюль і на ўсё патрэбныя. У бібліятэцы ўвялі платныя паслугі, з раёна давялі грашовую суму, якую яна павінна зарабіць за месяц. Дык даводзіцца са свайго заробку закладваць грошы, бо за кнігі-дэтэктывы і іншае чытво ніхто не хоча плаціць. Навошта, калі па тэлеку штодня дэтэктыўныя фільмы і меладрамы круцяць. Не, не толькі ёй, Марыі, гэтых грошай не хапае, а найперш яе адзінаму сыну Валерыку, які вучыцца ў сталічным педуніверсітэце на настаўніка. Стыпендыю ён мае невялікую, дужа сціплую — на яе студэнту не пражыць. Валерык прыязджае раз на два тыдні дахаты, бярэ розныя харчы, і гэта выратоўвае сына, бо, маючы на стале бульбіну, скварку і гурок, ён не галадае. Але ж не хлебам адзіным жыве чалавек, і студэнт у гэтым сэнсе не выключэнне. Валерыку патрэбны і вопратка, і абутак, і кніжкі, і яшчэ нямала з таго, што хочацца прыдбаць маладому хлопцу і на пражыццё, і для вучобы, і для душы ці адпачынку. Марыя добра разумее ўсё гэта, бо сама калісьці была студэнткай, вучылася ў інстытуце культуры. У кішэні яе Валерыка заўсёды мінімум сродкаў, дык хіба можа ён, скажам, з лёгкім сэрцам патрацiць грошы на тэатр ці дазволіць запрасіць туды яшчэ і дзяўчыну. Напэўна, думалася ёй, Валерыку хочацца схадзіць увечары ў якую-небудзь кавярню, пасядзець і адпачыць з сябрамі. Ці мала чаго жадаецца ў маладыя гады, калі паўсюль так шмат розных прынад і забаў. Аднак жа Валерык — чалавек сур'ёзны і адказны. Дарма ён не будзе марнаваць ні грошы, ні час. Марыя любіць свайго сына ўсім сэрцам і жадае яму, як і кожная маці, шчаснай долі. А таму працуе і высільваецца па гаспадарцы, карпее, збіраючы ў лесе ягады, млее на сонцапёку, намагаючыся як мага хутчэй прадаць тыя пластмасавыя чарoпкі з суніцамі ці чарніцамі. Ёй часцей і больш шанцавала, чым Тамары, якая заўсёды хмура касавурылася, зайздросна пазірала, калі пакупнікі, пакінуўшы свае легкавікі, кіраваліся да суседкі Марыі і бралі ў тае ягады. Асабліва Марыі шэнціла, і гэта пільна заўважала Тамара ды іншыя гандляры, на пакупнікоў-мужчын.

— Маня, ты хоць маленькая, ды ўдаленькая. Умееш вочкамі страляць. Не баба, а снайпер! — не ўтрымаўшыся, кпіла чырванашчокая Тамара і падколвала, падкусвала далей: — Што ні кажы, Манька, а ты яшчэ на ўсе сто. Лыткі пругкія, загарэлыя. А як выставіла бабскія чары, дык мужыкі, кабялі гэтыя, больш на тваё багацце зіркаюць, чым на суніцы кваплыца. Прапануй, дык які круты і цябе купіць. Глядзіш — і паджгаеш, такая вумная, з нашых аграгарадкоў у сталіцу. Сталіца табе, даражэнькая, не хухры-мухры!

— Ох, Тамара, балбатуха! — абурылася грубаватай бесцырымоннасцю сваёй суседкі Марыя, не стрымалася і выказалася пра яе паганую натуру: — То асцюкамі вееш, то языком мянташыш — аж брыдка слухаць! Ідзі ты, Тамара, ведаеш куды — у бульбу!

Тамара сядзела за сталом велічна, як мясцовая, ледзь не каранаваная, царыца, пасміхалася, адчуваючы задавальненне ад таго, што выліла трохі сваёй жоўці на ўдачлівую суседку-гандлярку.

Нягледзячы на шанцаванне ў ягадным бізнесе, Марыя Дарашэвіч не была, як можна здагадацца, вельмі шчаслівай у гэтым жыцці-быцці. Валерыка выгадавала адна, а цяпер рупілася і дбала, каб вывесці яго ў людзі — дапамагала сыну атрымаць вышэйшую адукацыю. Па першым часе, калі Марыя засталася без мужа, сякія-такія грошы дасылала даўно аўдавелая маці-пенсіянерка, але, калі Валерыку мінула тры гады, яе раптоўна не стала — памерла на ўласным агародзе, полючы пад спякотным сонцам бульбу. А бацька хлопчыка паехаў на заробкі ў Маскву — і не вярнуўся. Ні слыху ні дыху столькі гадкоў! Марыя верыла, сэрцам прадчувала, што яе Мікола жывы. Таму чакала і чакала, спадзявалася, што не сёння, дык заўтра ён абавязкова прыедзе дамоў. Калі пабачыла па тэлевізары праграму «Чакай мяне», то адрасу напісала туды з просьбай расшукаць яе Міколу. Ліст зачыталі, паказалі яго фотаздымак, прасілі адгукнуцца людзей, хто, магчыма, кантактаваў з ім ці бачыў яго. Аднак пасля выхаду тэлепраграмы мінула багата часу, ніякіх вестак жанчына не дачакалася, усё было па-ранейшаму. Ніхто не ведае, дзе Мікола, што з ім здарылася. Больш за ўсё Марыі не хацелася верыць у тое, што муж пакінуў яе, бо, маўляў, сустрэў іншую. Збіраючы ягады, яна зноў і зноў згадвала свайго Міколу, з якім разам пражылі зусім мала — няпоўныя два гады. Калгас іх заняпаў, апынуўся ў глыбокай фінансавай яме, грошай не плацілі. Марыя нарадзіла хлопчыка, яны з малым дзіцем туліліся ў старой хаціне, больш падобнай да хлява. Гэтая драўляная развалюха па маленькія вокны ўехала ў зямлю. Здавалася, вось-вось абрынецца столь, бэлька пасярэдзіне жытла апусцілася і ляжала на масіўнай дубовай шафе. Усялякае будаўніцтва ў калгасе спынілася, ніхто нічога не абяцаў, не спачуваў і не хацеў дапамагаць. Мікола не вытрымаў — і з'ехаў на заробкі. Даслаў некалькі лістоў з Масквы, абяцаў, што хутка прыедзе і прывязе грошы. Аднак Марыя не дачакалася мужа. Праз паўгода ён, як паведамляў і запэўніваў, не прыехаў. Мінуў год, затым — два, далей — пяць, дзесяць, пятнаццаць… Валерык, па сутнасці, не памятаў свайго тату, гадаваўся бязбацькавічам. Ужо з сынам-школьнікам Марыя перабралася ў людскую хату — набыў яе суседні агракамбінат, да якога далучылі іх бядотны, стратны калгас. Дзеля гэтага Марыі з дыпломам бібліятэкара давялося пайсці працаваць у малочны цэх. Цягаючы флягі і скрыні, зрушыла пазванок. Цяжка хварэла і доўга лекавалася. Пры зручнай нагодзе, калі ўтвараўся аграгарадок, пайшла зноў працаваць па спецыяльнасці на сваё ранейшае месца — у бібліятэку. А бібліятэчная праца жаданага дастатку не прынесла, давялося выжываць, шукаць выйсце з пастаяннай нястачы.

І вось Марыя збірае спелыя суніцы і згадвае свайго Міколу. Тут, на ляснoй паляне, сярод танюткіх белых бярозак і малых купчастых сосен, ціха і спакойна, ёй сам-насам трохі сумна, аднак шмат і доўга думаецца. Яна жыве бясконцымі згадкамі. І ўсё, здаецца, было, як учора: і першы дотык веснаў, і ўтрапёнасць ад блізкасці, і радасць-хваляванне, што яна будзе маці, і замілаванне ад першай бяззубай усмешкі Валерыка… Прыгадваюцца розныя сітуацыі, падзеі, узаеміны ў сямейным жыцці. Марыя зноў і зноў думае пра сына, яе сэрца поўніцца ціхай светлай радасцю і гонарам, што Валерык будзе настаўнікам. Ён чулы і далікатны, начытаны і разумны, яшчэ, аднак, не такі дарослы і сталы, як хацелася б. Валерык, па сутнасці, вялікае, безабароннае дзіця. Маміна крывінка, мамін гадаванец. Як магла, так і выхоўвала сына — супольная працаю на градах, вандроўкамі ў лес па ягады і грыбы, добрымі кніжкамі, аповедамі пра родных, блізкіх людзей: мудрую бабулю Зосю і яе казкі, свайго бацьку — паэтычную натуру, настаўніка роднай мовы і літаратуры, маці-працаўніцу, якая насаджвала цэлы гародчык вяргіняў, настурак, гваздзікоў ды іншых кветак і стварала сапраўдны шматколерны райскі куточак. Марыя, прытуляючы да сябе бабулін гарлачык, згадвала маміны спрацаваныя, увішныя рукі, бацьку-нябожчыка за стосам сшыткаў, яго ўзнёслыя вершы для мамы. Апрача іншых запомніліся ёй і вось гэтыя два радочкі:

*Ты — чыстая крынічная вада,*
*Глыток якой ратуе ў спёку…*

Лагоднае сунічнае лета лякуе і суцяшае Марыю, а зялёны лес ратуе жанчыну прахаладою ад спякотнага сонца. Яна вяртаецца да вядра з ягадамі, дастае з торбачкі бутэльку з вадою, каб спатоліць смагу. Павяла позірк убок — і злякнулася: на яе са звярынай жарсцю рынулася цёмная і магутная чалавечая постаць…

…Праз некалькі дзён па тэлебачанні і ў розных газетах паведамлялася пра крымінальную падзею: у лясным урочышчы N-скага раёна знойдзена цела мясцовай жыхаркі. Тое, што з ёю здарылася жудаснае, звыродлівае, ганебнае, не агалошвалася. У інфармацыі, якая з'явілася ў тэленавінах і друку, гаварылася, што апаратыўны пошук злачынцы вывеў на раней судзімага, не працуючага 32-гадовага жыхара таго ж раёна.

Не магла Марыя, руплівая ягадніца і клапатлівая матуля, прадбачыць, што на зіхатліва-сонечным світанку ішла-крочыла з гліняным гарлачыкам у руках на апошняе спатканне са сваім доўгачаканым сунічным летам.

# Мой Васіль Быкаў



*Фота Сяргея Папізніка*

Калі справядлівае выказванне Кузьмы Чорнага «Чалавек — гэта цэлы свет», то творчасць Васіля Уладзіміравіча Быкава — гэта цэлы сусвет, напоўнены агульначалавечымі праблемамі ў нацыянальна-беларускай форме. Працяглы час працуючы на філалагічным факультэце БДУ, я неаднойчы выступала з лекцыямі па творчасці Быкава. І неаднойчы ўступала ў дыскусіі са студэнтамі, нават і з калегамі-выкладчыкамі, бо асоба, творы пісьменніка не пакідалі абыякавымі як яго прыхільнікаў, так і апанентаў.

Некаторыя моманты ў пісьменніцкай лабараторыі Быкава ўспрымаюцца цалкам. Так, неаспрэчныя застаюцца думкі пра тое, што ад рэалізму першых твораў Быкаў прыйшоў да экзістэнцыялізму ў апошнія гады творчасці. Прызнаецца арыгінальнасць архітэктонікі, спіральная кампазіцыя «Аблавы», «У тумане», што нагадваюць структуру біблейскіх прытчаў. Пераканальнымі лічацца меркаванні пра сюррэалістычныя калізіі твора «Бліндаж», які месцамі ў моўным плане набліжаецца да плыні свядомасці і інш. Аднак асобныя пытанні ўсё-такі з'яўляліся праблемнымі.

Адным з першых, што патрабавала прынцыповага тлумачэння, было пытанне нацыянальнай вызначанасці творцы. Некаторыя навукоўцы савецкага часу настойліва спрабавалі Быкава ўпісаць у кагорту рускіх пісьменнікаў. Ленінградскія даследчыкі нават уключылі манаграфічны агляд творчасці Быкава ў створаны імі ўніверсітэцкі падручнік па рускай савецкай літаратуры! Падставай для іх былі надрукаваныя Быкавым аўтарызаваныя пераклады ўласных твораў на рускую мову. Аўтарызаваны рускамоўны пераклад пісьменніка быў вынікам абставін — як у выпадку з творам «Мёртвым не баліць». Аляксандр Твардоўскі, рэдактар часопіса «Новый мир», прыспешваў Быкава. Мянялася кан'юнктура палітычнай атмасферы ў краіне, развенчванне культу асобы Сталіна пераходзіла ў сваю супрацьлегласць. У 60-я гг. згортваліся праявы дазволенасці на праўду, бо пачыналася маштабная рэабілітацыя сталінскага рэжыму з устаноўкай на палітычную дыктатуру ў жыцці грамадства ўвогуле, у галіне мастацтва ў прыватнасці. Часу на тое, каб выкананне перакладу даверыць нейкаму перакладчыку з боку, не было. Вынікла неабходнасць самаму аўтару стварыць рускамоўную версію твора «Мёртвым не баліць». І гэта вырашыла лёс твора: ён паспеў убачыць свет у прагрэсіўным «Новым мире» да цэнзурнага ўмяшальніцтва, што імкліва ўваходзіла ў палітыку культурнага жыцця краіны. Васіль Уладзіміравіч неаднойчы паўтараў, што свае мастацкія творы ён пісаў выключна на беларускай мове. Аднак не ўсе лічылі патрэбным прыслухоўвацца да сцвярджэння самога беларускага аўтара…

Наступная праблема, якая вызначае спецыфіку рэцэпцыі мастацкіх твораў Быкава, — гэта непахісная пазіцыя пісьменніка адносна маральных асноў жыцця грамадства і асобнага чалавека. Прыгадваюцца эмацыянальна насычаныя дыскусіі, арганізаваныя на старонках «Комсомольской правды». Розныя прадстаўнікі «прафесуры ад навуковага атэізма» даказвалі памылковасць Быкава ў яго арыентацыі на маральныя пастулаты Бібліі. «Ваяўнічыя аргументы» прадстаўнікоў атэізму не варта і пералічваць. Бо сёння тыя навукоўцы перакваліфікаваліся ў нейтральных «рэлігіязнаўцаў»: у жыцці народаў колішняга СССР адраджаецца дзейнасць царквы ў гуманітарнай сферы грамадства. І пацвярджаецца тое, што быкаўская мараль не патрабуе ніякіх паправак на час.

Больш дыскусійнымі па-ранейшаму застаюцца пытанні фізічнай, інтэлектуальнай, маральнай свабоды чалавека ў творах пісьменніка. Філосафы сцвярджаюць: «Свабода волі і асновы маралі — дзве галоўныя праблемы этыкі» (А. Шапенгаўэр). Васіль Быкаў ніякім спосабам ні ва ўласным жыцці, ні ў творчасці не мірыўся з праявамі дыктатуры, таталітарызму. Пісьменнік быў паслядоўным, непахісным у крытыцы небяспечных праяў кіравання грамадствам прадстаўнікамі ўлад і палітычнага рэжыму, што ішлі ўразрэз з разуменнем чалавечнасці. Некаторыя з чытачоў і дагэтуль не могуць адкрыць для сябе ў творах Быкава гэтага мастакоўскага арыенціра на праўду. Сутнасць Быкава як мастака якраз і выяўляецца ва ўвазе да лёсу асобнага чалавека — у найвышэйшым выяўленні гуманізму. Аднак яшчэ не ўсе грамадзяне прыйшлі да разумення гэтай праўды. Бо жыццёвая практыка і мастакоўская не заўсёды супадаюць, а слова мастака Быкава не скіравана на ідэалізацыю, не супакойвае. Яно абуджае да інтэлектуальнай працы.

Закранаючы практыку мінулага, Быкаў прамаўляе да сумлення і самасвядомасці сучаснікаў. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў актуальным лозунг «Забі фашыста!». Сёння жыццё нас набліжае да іншага вымярэння міжнацыянальных, міждзяржаўных зносін: «Любы мір лепшы за вайну!» Творы Быкава рыхтавалі чалавецтва да такога разумення. У прыватнасці, вобраз бліндажа (аповесць «Бліндаж») успрымаецца як нейкі біблейскі каўчэг, у якім ваенныя падзеі сабралі разам сляпога пасля ранення рускага воіна Хлебнікава, дэзерціра-немца Хольца, бальшавіка Дземідовіча, яўрэя Нохема, «заблытанага» антысеміта Качана, збрыдняў-паліцаяў Піліпёнкаў. І разам з імі знаходзіцца галоўная гераіня твора — вясковая беларуская жанчына-гаротніца Серафіма Тарасевіч. Яна — жывое ўвасабленне ідэі інтэрнацыяналізму ў яго найвышэйшым, не абстрактным, а жыццёвым гуманістычным выяўленні. Аднак, як паказваюць новыя падзеі на постсавецкай прасторы, урокі Быкава, а таксама і яго аднадумцаў з ліку і рускіх, і ўкраінскіх, і беларусіх пісьменнікаў не ўсімі прачытаны, зразуметы, засвоены…

Аналітычны падыход да творчасці Быкава выяўлялі і беларускія даследчыкі, і замежныя літаратуразнаўцы, акцэнтуючы ўвагу найперш на «акопнай праўдзе» пісьменніка-франтавіка. Мне ж хочацца звярнуць увагу на вельмі арыгінальную распрацоўку ў творах Быкава думкі, закладзенай у вядомым афарызме «У вайны не жаночы твар». З аднаго боку, жаночыя вобразы пакліканы падкрэсліць у творы жорсткасць вайны. З другога, прысутнасць жанчыны ў тых неверагодна цяжкіх умовах высвечвала высокія ідэалы гуманізму, якія спавядаў пісьменнік.

Жаночае імя — адзін з цікавейшых мастацкіх сродкаў характарыстыкі вобраза ў Быкава. Так, у аповесці «Трэцяя ракета» падаецца вобраз чыстай, наіўнай і прыгожай Люсі. Люся «сваёй чалавечай, жаночай душой адчувала нешта тое, што недаступна нам, аслепленым крывёю, нянавісцю гарачай бойкі», — характарызаваў гераіню аўтар. Думкі пра санінструктара Люсю, пра будучае жыццё, пра Радзіму «дапамагалі Лазняку, які чула ўспрымае любое адступленне ад маралі… здзяйсняць на вайне тое, што, здавалася, звыш яго сіл… Прысутнасць гэтай цудоўнай дзяўчыны на вайне, дзе смерць і кроў на кожным кроку, абвастрае адчуванне недарэчнасці ўсяго, што адбываецца». Заўважым, гераіня з такой характарыстыкай названа аўтарам — Людміла. Бо, сапраўды, такая дзяўчына павінна быць мілая людзям. Аднак вайна ўнесла свае карэктывы — і вялікі чалавечы патэнцыял гераіні так і не змог раскрыцца…

Супраць сляпой жорсткасці, якую нясе ў сабе вайна, выступаў Быкаў у рамане «Мёртвым не баліць». Ратуючы сваё жыццё, камандзір Сахно загадвае на міннае поле выйсці цяжарнай жанчыне. Яе пакутлівая гібель падкрэслівае думку аўтара пра тое, што жыццё чалавека на вайне абрываецца і злачынна, і ненатуральна. Бо ад нараджэння дзяўчыне самой прыродай было наканавана працягваць гэта жыццё. Яна — Кацярына. І ў народнай культуры беларусаў Кацярына — заступніца дзявочага лёсу. У дзень велікамучаніцы Кацярыны, 7 снежня, дзяўчаты прасілі сабе ў Бога добрага лёсу, хлопцы — добрай жонкі.

# Вярнуць сапраўднага Быкава

**Ці можа пісьменнік не нарадзіцца і не жыць у Расіі, не пісаць па-руску і быць вядомым у гэтай краіне выключна дзякуючы перакладам яго твораў? Аказваецца, можа, і гэта — Васіль Быкаў. Згодна са школьнай праграмай па літаратуры, зацверджанай Міністэрствам адукацыі Расійскай Федэрацыі, творчасць В. Быкава «належыць» рускай літаратуры 60 — 90-х гадоў XX стагоддзя.**
**Акрамя таго, у сучасных расійскіх выданнях, у прыватнасці тых, якія пабачылі свет у 2011 годзе ў маскоўскім выдавецтве «Эксмо», не ўказваецца, што творы («Жураўліны крык», «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Сотнікаў», «Абеліск», «Дажыць да світання», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды») друкуюцца ў перакладзе з беларускай мовы — адны ў перакладзе аўтара, другія ў перакладзе В. Рудавай і Г. Куранёва, — а гэта, бясспрэчна, з'яўляецца парушэннем аўтарскіх правоў.**

І самае галоўнае — праблема адэкватнасці твораў В. Быкава ў рускамоўнай кніжнай прасторы. Расійскія школьнікі вывучаюць «Абеліск» і «Сотнікава», і калі першая з названых аповесцей змястоўна вельмі блізкая да арыгінала, то другая ў ідэйным плане кардынальна адрозніваецца ад яго.

Перакладаючы «Абеліск», Г. Куранёў змякчыў драматызм быкаўскага стылю. Мастацкая каштоўнасць твораў В. Быкава абумоўлена ўменнем празаіка будаваць вострыя, дынамічныя сюжэт, дакладна і глыбока раскрыць складаны чалавечы характар, выкарыстаць адзіна магчымае слова, адзіна патрэбную ў пэўным кантэксце дэталь. Перакладчык жа падбіраў такія словы, вобразныя сродкі, якія слаба перадаюць спецыфіку стылю арыгінала, ад чаго ў пэўных эпізодах ён губляе асноўныя рысы сваёй першапачатковай формы. Напрыклад, так:

*Мароз кажа такім голасам, быццам пахаваў родную маму: «Хлопцаў пабралі». Я не зразумеў спярша: «Якіх хлопцаў?» — «Маіх, — кажа. — Шасцярых чалавек сёння ноччу схапілі, сам ледзь вырваўся. Адзін паліцай папярэдзіў».*

*Мороз говорит таким голосом, словно похоронил родную мамашу: «Хлопцев забрали». Я не понял сначала: «Каких хлопцев?» — «Моих, — говорит. — Сегодня ночью схватили, сам едва вырвался. Один полицай предупредил».*

Гэта прыклад адначасова ўдалага і няўдалага перакладчыцкага манеўра: беларусізм *хлопцев* як адну з магчымасцей перадаць нацыянальны каларыт можна толькі ўхваліць, аднак слова *мамаша* з яго грубаватым, фамільярным адценнем абсалютна не да месца. І падобных выпадкаў шмат, што, дарэчы, паўплывала на ўзнікненне аўтарскіх перакладаў Васіля Быкава.

«Адзіны часопіс, які тады мяне друкаваў у Маскве, — тлумачыў пісьменнік, — быў «Новый мир» пад рэдакцыяй А. Твардоўскага. Але вялізным перашкодай між аўтарам і часопісам стаў моўны бар'ер — узровень перакладаў на расейскую мову не задавальняў рэдакцыю. Аднойчы пасля рэдакцыйнага абмеркавання Твардоўскі прапанаваў, каб пераклад аповесці («Праклятая вышыня») зрабіў сам аўтар… Аповесць надрукавалі менавіта ў маім перакладзе…» — узгадвае пісьменнік у кнізе «Крыжовы шлях».

З цягам часу В. Быкаў пераклаў на рускую мову ледзь не ўсе свае творы, у тым ліку аповесць «Сотнікаў». Яна з'яўляецца адным «з самых дасканалых і глыбокіх твораў» Быкава, які, акрамя таго, «асабліва дарагі і для самога аўтара» («Праўда і мужнасць таленту», Д. Бугаёў). Тое, што пісьменнік даражыў кожным словам свайго твора, відаць і ў аўтаперакладзе, зробленым блізка да арыгінала. Узяць кульмінацыю твора — сцэну пакарання Сотнікава, выпісаную вельмі дакладна і скрупулёзна:

*Падстаўка яго кіўнулася ў раптам аслабленых руках Рыбака, які нязграбна курчыўся ўнізе, баючыся, мабыць, не могучы наважыцца на апошнюю і самую страшную цяпер справу. Недзе ззаду мацюкнуўся Будзіла, і Сотнікаў, каб апярэдзіць непазбежнае, здаровай нагой штурхануў ад сябе цурбан.*

Смерць Сотнікава «агітацыйная». Сваёю мужнасцю ў гэты страшны момант ён імкнецца падтрымаць людзей, сагнаных на месца пакарання. Акрамя таго — і гэта самае важнае, — апярэдзіўшы Рыбака, ён сам выбівае з-пад сваіх ног цурбан і такім чынам дае магчымасць Рыбаку не ператварыцца канчаткова ў пачвару, а ўсё-такі застацца чалавекам, дае яму шанц збочыць са шляху здрады ці хоць бы спыніцца, пакуль не зайшоў далёка. Адзначаная сцэна вельмі важная для разумення характару Сотнікава, і яна, безумоўна, з'яўляецца інварыянтным элементам твора, бо ў ёй канцэнтруецца ідэйны змест аповесці.

У аўтаперакладзе, які выйшаў упершыню ў часопісе «Новый мир» (1970), азначаны эпізод перакладзены так:

*Подставка его опять пошатнулась в неожиданно ослабевших руках Рыбака, который неловко скорчился внизу, боясь и, наверное, не решаясь на последнее и самое страшное теперь для него дело. Где-то сзади матерно выругался Будила, и Сотников, чтобы упредить неизбежное, здоровой ногой изо всей силы толкнул от себя чурбан.*

Ва ўсіх рускамоўных выданнях аповесці пазнейшага часу, як і ў зборы твораў В. Быкава на рускай мове (1985) і ў згаданых выданнях «Эксмо» (2011), аўтарскі пераклад выглядае так:

Увесці ў аповед большую колькасць жаночых персанажаў дазволіў пісьменніку зварот да акупацыйнага жыцця. Так, у аповесці «Сотнікаў» з'яўляюцца не толькі дарослыя, але і дзеці. Вельмі тонка выканана псіхалагічная замалёўка вобраза маленькай гаспадынькі, дзевяцігадовай дзяўчынкі Гэлькі (народны варыянт імя Алена). Аленай называлася маці імператара Рымскай імперыі Канстанціна, што першай адшукала крыж і магілу Хрыста, увекавечыла яго ў архітэктурных збудаваннях Іерусаліма. Алена Прыўкрасная — персанаж славянскіх казак. Імя павінна было падкрэсліць высокую місію беларускай дзяўчынкі ў жыцці. Аднак праз неадпаведнасць сутнасці імя і жыццёвых варункаў, якія складваліся вакол яго ўладальніцы, аўтар падкрэслівае трагічнасць далейшага лёсу дзяўчынкі. Пасля гібелі яе маці Аўгінні на Гэльку ўскладваецца адказнасць за жыццё меншых дзяцей — брацікa Лёніка і сястрычкі Каці. Звярнуўшы ўвагу на імя Аўгіння, убачым у ім народную форму літаратурнага імя Яўгенія, што падказвае нам усталяваную трактоўку як «вянцаносная». Назіраецца зноў тое ж трагічнае несупадзенне ідэалу і рэчаіснасці.

У рамане «Кар'ер» Быкаў паказаў жанчыну, якая ўзяла на сябе выкананне вельмі небяспечнага задання партызанаў, што атрымаў яе каханы, старшы лейтэнант Агееў. «Невідушчы і неразумны» Агееў згаджаецца з задумкай дзяўчыны, падстаўляючы яе пад удар. Самаахвярнасць жаночага характару падсвечваецца ў Быкава імем гераіні, якую аўтар назваў па-біблейску — Марыя.

Цэнтральная гераіня партызанскай аповесці «Пайсці і не вярнуцца» Зося надзелена такімі якасцямі, як непахісная сумленнасць, справядлівасць, амаль хваравітая рэакцыя на хлусню. Аднак усе гэтыя станоўчыя якасці ва ўмовах вайны не могуць абярагчы дзяўчыну ад бяды. Зося прывыкла верыць людзям, яна добрая, як і яе маці. Даверыўшыся каханню, дзяўчына з цягам часу адчуе на сабе сапраўдны трагізм падзей, пазнае здрадлівую сутнасць каханага, які ў сне прыйдзе да яе як «д'ябал і анёл у адной асобе». Зося перамагае сябе, бо для яе «ў гэтай вайне, апроч як выстаяць і перамагчы, іншага выбару не існуе. Інакш не варта і жыць...». Выбар свой Зося здолела зрабіць і сэрцам, і розумам. Бо Зося — гэта Сафія. Гэта — мудрасць.

Асаблівае месца займаюць вобразы жанчын у творах Быкава, дзе раскрываецца трагедыя абставін, што прыводзяць да гібелі сялянскага роду. У «Знаку бяды» буйным планам выпісаны вобраз Сцепаніды. У «Бліндажы» галоўная гераіня — Серафімка. Жаночыя персанажы ў абодвух творах маюць імёны, якімі зазвычай называюць хлопцаў, а не дзяўчат. Быкаў надзяліў сваіх гераінь выключна моцным характарам, жыццёвай стойкасцю. Пры гэтым у кожнае імя аўтар заклаў асаблівы сімвалічны сэнс — святая жанчына. Бо ў перакладзе з грэчаскай мовы Стафанас (ад гэтага слова ўтворана форма Сцепаніда) азначае «вянок, вянцаносная, царственная, святая». Онім ператвараўся ў тэонім і ў «Бліндажы». Па сутнасці свайго характару жанчына з «Бліндажа» магла прэтэндаваць на ролю маці чалавечай, маці роду земнога: яна ратуе людзей розных светапоглядаў, розных нацыянальнасцей. Але ж па сюжэце яна бяздзетная. І таму імя Марыя аўтар не выкарыстоўвае. Узамен з'яўляецца яшчэ адзін сімвал, звязаны з Бібліяй, сімвал-кампенсатар. Серафімка — любімая гераіня Быкава, на гэта, у прыватнасці, указвае ласкальна-памяншальны суфікс -к-. У яўрэйскай міфалогіі серафімы — анёлы, якія найбольш набліжаны да Бога. Іх вобразы шырока сустракаюцца ў іканапісе хрысціян. Падобна да херувімаў, яны надзелены ахоўнымі функцыямі надзвычайнай моцы. Сярод дзевяці чыноў анёльскіх хрысціянская рэлігія на першае месца ставіць менавіта серафімаў. Аднаму з іх было прызначана ачышчаць вусны Прарока. Такім чынам, можна сцвярджаць, што пісьменнік не толькі адлюстроўваў катастрафізм лёсу нацыянальнага вясковага чалавека. Ён імкнуўся, спрабаваў быць і аптымістам...

Васіль Быкаў, як пераканаўча сведчыць феномен яго пісьменніцкага жаночага іменаслоўя, спалучаў у сваёй творчасці агульна філасофскі, гуманістычны пачатак з нацыятворчымі чыннікамі. Увогуле, проза пісьменніка, падзейна звязаная з вёскай, ненавязліва раскрывае перад чытачамі этнакультурныя вобразы-сімвалы. Сярод іх вялікую ролю ў раскрыцці ідэйнай задумы аўтара адыгрываюць напоўненыя сакральным значэннем рэаліі жыцця, што моцна ўвайшлі ў нацыянальную ментальнасць, — хата, печ, парог, жорны, куфар. Так, у аповесці «Бліндаж» ваенныя падзеі не цалкам зруйнавалі хату. Агонь не знішчыў парог роднага гнязда. Рассыпаўся комін, але ж цалютакі засталася печ. На пажарышчы гераіня знайшла куфар, а ў ім — выратавальнае зерне, надзею на працяг жыцця... Пісьменнік разгортвае ўнутраную энергію этнакультурных вобразаў-сімвалаў, як і ў выпадках з рэальнымі беларускімі жаночымі імёнамі, што сваёй этымалогіяй выводзяць чытачоў на асацыяцыі з высокай змястоўнай напоўненасцю рэлігійна-міфічных персанажаў.

Заўважу, што Быкаў апошнім часам быў увогуле вельмі ўважлівы пры называнні сваіх персанажаў, не толькі жаночых, але і мужчынскіх. Пісьменнік увесь час пакутаваў ад той прыкрай недарэчнасці, што была выклікана прозвішчам персанажа з набольш яго аўтабіяграфічнага твора — ваеннага рамана «Мёртвым не баліць». Некаторыя з украінскіх сяброў Быкава ў тэксце «Мёртвым не баліць» убачылі папрок у свой адрас, палічыўшы, што прозвішча адмоўнага героя-энкавэдзіста Сахно нібыта свядома ўзята з украінскай рэчаіснасці. «Прыём украінскага словаўтварэння» ледзь не атрымаў фатальныя наступствы. Нацыянальнае пачуццё ўкраінцаў было абражана, балючае непаразуменне зацята трывала амаль трыццаць гадоў.

Знакаміты раман «Мёртвым не баліць» з яго горкай праўдай пра баі пад украінскім Кіраваградам усё ж убачыў свет ва Украіне ў канцы 1980-х гг. Гэты акт гістарычнай справядлівасці адбыўся дзякуючы міжнацыянальным украінска-беларускім кантактам асабістага характару. Абавязкі «міратворцаў» узялі на сябе Уладзімір Яварыўскі і Вячаслаў Рагойша, што былі ў блізкіх адносінах з вядучым украінскім празаікам Алесем Ганчаром. Алесь Ганчар як рэдактар цэнтральнага органа ўкраінскіх пісьменнікаў, часопіса «Вітчизна», урэшце даў дабро на публікацыю майго перакладу на ўкраінскую мову рамана «Мёртвым не баліць» (Вітчизна, 1988, № 7). Магу засведчыць: узаемаадносіны з украінскімі пабрацімамі-пісьменнікамі былі для Быкава важкім складнікам яго чалавечага і творчага жыцця. Васіль Уладзіміравіч радасна даваряў мне пераклады сваіх найноўшых твораў. Амаль адначасова з арыгінальнымі публікацыямі «Аблавы», «У тумане» ўбачылі свет і іх украінскамоўныя версіі ў маім выкананні ў часопісе «Київ» («У тумані». — 1987, № 7; «Облава». — 1989, № 8). Прыгадваю пісьмо, якое даслаў украінскі чытач з Чарнігаўшчыны, прачытаўшы «Аблаву» на старонках часопіса «Київ»: «Пішу ва ўзрушэнні. Я ўжо стары сівы чалавек. І не думаў нават, што дачакаюся такой адкрытай праўды. Хведар Роўба як спісаны з трагічнай гісторыі нашага сямейнага роду...» Названыя пераклады твораў склалі пасля ўкраінскамоўнае выданне асобнай кнігі: Василь Биков. Мертвим не болить (Київ: Дніпро, 1990).

Па-ўкраінску ў маім перакладзе былі апублікаваны і ўрыўкі з аповесці Быкава «Бліндаж» (Літературна Україна, 12. 7. 2007). Украінскія чытачы адразу ўлавілі, ацанілі выразныя і прыхаваныя ўкраінскія алюзіі твора. Сярод іх ужо згаданы вобраз Серафімкі. Прозвішча Серафімкі — Тарасевіч — адсылае нас у часы Тараса Шаўчэнкі. Аўтарская задумка гераіні вырастае з Шаўчэнкавага болю, з Кабзаровай мастацкай канцэпцыі жанчыны — сімвала роднай маці-краіны. Быкаў быў перакананы: шмат выяў духоўнай культуры сталіся роднымі і для ўкраінцаў, і для беларусаў. Зрэшты, і заканчэнне аповесці «Аблава» яднае ўкраінцаў і беларусаў, нагадваючы роздум другога класіка ўкраінскай літаратуры, Івана Франко, над лёсам уласнага народа...

Не ўсё яшчэ даследавана, высветлена, расшыфравана ў творчай спадчыне Васіля Быкава. Аднак будзем спадзявацца, што новыя пакаленні чытачоў змогуць пераканацца ў тым, што Мастацтва беларускага пісьменніка неўміручае, як неўміручыя адвечныя пошукі Ісціны, як незнішчальнае само Сумленне.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

### Даведка «ЛіМа»

*Таццяна Кабржыцкая — украінка, сябра Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко. Узнагароджана дзяржаўным ордэнам Украіны — ордэнам Княгіні Вольгі.*

*Подставка его опять пошатнулась в неожиданно ослабевших руках Рыбака, который неловко скорчился внизу, боясь и, наверное, не решаясь на последнее и самое страшное теперь для него дело. Но вот сзади матерно выругался Будила, и Сотников, вдруг потеряв опору, задохнувшись, тяжело провалился в чёрную, удушливую бездну*.

Псіхалагічны малюнак кардынальна змяняецца. Сотнікаў не выбівае ў сябе з-пад ног падстаўку, а проста губляе апору, г. зн. як бы дазваляе Рыбаку выпадкова здзейсніць пакаранне да канца і не дае яму магчымасці «рэабілітавацца». Такім чынам, значна мяняецца ідэя твора. Вось прыклад вялікай важнасці і адказнасці за змены, унесеныя ў пераклад.

Натуральна, выклікае сумненні, што Васіль Быкаў мог так лёгка пазбавіцца ад тонкай псіхалагічнай характарыстыкі свайго героя. У артыкуле «Як была напісана аповесць "Сотнікаў"» (1973) пісьменнік падкрэсліваў: «Як правіла, працы над кожнай рэччу ў мяне папярэднічае, акрамя максімальна распрацаванага плана, яшчэ і скрупулёзна прадуманы фінал. Без яснага ўяўлення пра тое, чым павінна скончыцца аповесць, я не магу прыступіць да яе пачатку... У «Сотнікаве» я з самага пачатку ведаў, чаго хачу ў канцы, і паслядоўна вёў маіх герояў да сцэны пакарання, дзе адзін дапамагае вешаць другога. Не жадаючы таго, перажываючы...»

Аднойчы ў інтэрв'ю празаік выказаўся наступным чынам: «Яшчэ на пачатку мае творчасці з'явіліся цяжкасці з выданнем у Беларусі (і не толькі ў Беларусі), бо пасля «Мёртвым не баліць» (1965) мае аповесці пра вайну падвергліся астракізму ва ўсёй краіне саветаў». Не выключана, што тое самае магло выклікаць у пісьменніка насцярожанасць і жаданне «згладзіць» найбольш востры эпізод «Сотнікава» ў рускамоўным варыянце. Ёсць падставы меркаваць, што ў гэтым выпадку не абышлося без аўтацэнзуры, але прамых пацвярджэнняў няма.

Калі ж спыніцца на тым, што першапачаткова аўтапераклад, надрукаваны ў «Новом мире», літаральна перадаваў кульмінацыю аповесці, нельга выключаць наяўнасць у больш позніх рускамоўных выданнях абсалютна некарэктных, грубых рэдактарскіх правак.

І яшчэ хачу звярнуць увагу чытачоў і выдаўцоў на наступнае.



На калінавым мосце жыцця. Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці. Лiпень 1987 г. (Васіль Быкаў — у цэнтры).

Фота Сяргея Панізніка

Рэдакцыю «Нового мира» не задавальняў узровень перакладу на рускую мову, а выдавецтва «Эксмо» цалкам задавальняе: пераклад аповесці «Абеліск» выдання 1987 года слова ў слова паўтараецца ў названых вышэй выданнях 2011-га. Ці, можа, у «Эксмо» не ведаюць, што друкуюць пераклады, а рэдагаваць класіку рускай літаратуры не асмельваюцца ды не ўяўляюць, што адбываецца з рускамоўным выданнем «Сотнікава»?..

Але чаму б цяпер не вярнуцца да першапачатковага, адэкватнага арыгінала і зробленага самім аўтарам варыянта перакладу? Чаму б не выправіць стылістычныя памылкі перакладчыкаў, а не пераносіць іх з 70 — 80-х гадоў у 2000-я? І чаму б не прадставіць расійскім чытачам Васіля Быкава не як рускага пісьменніка, а, скажам, савецкага, прадстаўніка «лейтэнанцкай прозы», сусветна вядомага беларускага ці, урэшце, проста замежнага аўтара? Пакуль пытанні застаюцца адкрытымі.

**Наталля ЯКАВЕНКА**

Аблічча

# Пасля вогненных вёсак…

Фота Сяргея Панізніка



Васіль Быкаў (у цэнтры) сярод ветэранаў вайны на бярозавай алеі.

Сёлета спаўняецца 55 гадоў, як на мяжы трох рэспублік — Беларусі, Латвіі і Расіі — быў узведзены Курган Дружбы — у гонар баявой садружнасці беларускіх, латвійскіх і рускіх партызан у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У першую нядзелю ліпеня там праводзіліся сустрэчы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Бярозавай алеяй ішлі да Кургана наведвальнікі з Беларусі, ліпавай — з Латвіі, кляновай — з Расіі.

У мяне былі свае скрушныя сцяжыны па выпаленай Асвейшчыне. Пасля таго як партызаны разграмілі некалькі гітлераўскіх гарнізонаў на тэрыторыі Латвіі, у лютым 1943 года па Асвейшчыне прайшла жудасная карная экспедыцыя. Партызаны з баямі адышлі за лінію фронту. Ацалелыя з вогненных вёсак былі вывезены ў Саласпілс пад Рыгай, у Майданэк, Асвенцым, Дахаў, Равенсбрук… Адзінкі вярнуліся «…у горкі, пустэльны світанак, дзе сыплецца зерне счарсцвелае з рук». Размовы са сведкамі, каму была наканавана смерць у растэрміноўку, увайшлі ў кнігу «Пасля вогненных вёсак…» (1980), у дакументальную аповесць «Station Браніслава» (1985)…

І вось на Кургане Дружбы новая сустрэча ветэранаў вайны (наступілі 70-я ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі). Той ліпеньскай раніцай сустракаю на бярозавай алеі былога франтавіка Быкава. Пераходзіць масток над пералівам рачулкі Няверыцы ў Сінюху. Глядзіць на фатографа. Не верыцца, што Васіль Уладзіміравіч, капітан у запасе, не пазнаў мяне, таксама капітана ў запасе, якога калісьці падвяла на службе нерашучая класавая пільнасць.

Пасля трыбуннага гулу спыніўся я каля замшэлага старца-валуна. Асцярожненька падумалася: «Мо і празаік Васіль Быкаў не быў бы супраць просьбітных радкоў да ляснога абярэга: "Кожны хай адно імя назаве! Што прыпомню сёння я — ажыве. Нашу спадчынную грудзь азвані… Прарастае Беларусь з глыбіні"».

22 чэрвеня 2003 года і сам геній нашага народа сышоў у родную зямлю, каб прарастаць у людской памяці.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Канстанцін Канавалаў: «Ці ўсё сказалі пра Шаўчэнку?»



Гэты год, як вядома, юбілейны для вялікага Кабзара. 200-годдзе з дня яго нараджэння ўкраінскі кінарэжысёр і пісьменнік Канстанцін Канавалаў сустрэў кнігай і дакументальнай кінадрамай «Экспедыцыя». З аўтарам двух цікавых праектаў сустрэўся карэспандэнт «ЛіМа».

**— Здавалася б, пра Кабзара ўжо ўсё сказана, столькі кніг напісана — і мастацкіх, і дакументальных... А вы здымаеце фільм «Экспедыцыя», пішаце кнігу «Мастак». Чым кіраваліся, мяркуючы распачаць гэтыя творчыя праекты?**

— Вялікі Кабзарварты таго, каб украінцы (і не толькі украінцы) звярталіся да яго вобраза, яго біяграфіі, яго творчасці. Мастацкія творы пра Шаўчэнку (менавіта мастацкія, а не даследчыцкія) з'явіліся ў савецкія часы — і Кабзар паўстае там як вобраз сацыял-дэмакрата, пахмурнага барацьбіта за рэвалюцыйныя ідэалы. Надышоў час звярнуцца да біяграфічных нарысаў тае пары — дзе Шаўчэнка паўстае як чалавек вясёлай удачы, напоўнены жыццёвай энергіяй, і галоўнае — як чалавек вялікага таленту! Я і мой таварыш Дзяніс Замрый (суаўтар рамана) вывучылі багата мемуарнай літаратуры пра Шаўчэнку і пабачылі вобраз чалавека таленавітага, шчырага, аптымістычнага. Мабыць, такім і павінен быць сапраўдны ўкраінскі герой — такі, як у творах Катлярэўскага і Гогаля. А пра падобных герояў пісаць прыемна, іх сапраўды любіць чытач. Нам заставалася толькі прадоўжыць традыцыю айчыннай літаратуры і стварыць захапляльны раман. Мой фільм «Экспедыцыя» ў значнай ступені пераклікаецца з раманам.

**— Тарас Шаўчэнка... Калі ўскласці на шалі складнікі яго жыцця, яго менталітэту, калі падсумаваць па сённяшнім часе яго ролю для Украіны, то хто ён у большай ступені — паэт, бунтар, мастак?**

— Шаўчэнка пачынаў як мастак. Гэта сапраўдны ўзлёт — ад прыгону да Акадэміі мастацтваў, гэта нават не кар'ера, а феерверк! Шаўчэнка развіваўся паступова: пасля жывапісу пачаў сябе рэалізоўваць як лірычны паэт, а ўжо затым, калі востра адчуў бяду зняволеной Украіны — стаў бунтаром. Само па сабе адбылося такое паяднанне — і гэтым паяднаннем Шаўчэнка такі цікавы.

**— Наколькі, на ваш уласны погляд, адбылося асэнсаванне Тараса Шаўчэнкі, яго творчасці, па-за межамі Украіны?**

— Шаўчэнка не з тых постацей, якія можна разглядаць па-за кантэкстам усяго XIX стагоддзя. У тым стагоддзі гуманізму, творчасці, росквіту мастацтва, літаратуры, філасофіі займаліся стваральніцкай працай Аляксандр Пушкін, Янка Лучына, Адам Міцкевіч… Уласна кажучы, мы з калегам стварылі раман пра XIX стагоддзе, у якім Шаўчэнка — плоць ад плоці тае выдатнай эпохі.

**— Ці ўсе яго запаветы выканаты, асэнсаваны?**

— Зразумела, не ўсе. Шаўчэнка бачыў Украіну вольнай, але — вольнай толькі пасля барацьбы за ўласную свабоду. І да Шаўчэнкі, і пасля яго смерці украінцам давялося змагацца — і гэта прадбачыў паэт. «Борітеся — поборете», — пісаў ён. Гэта, мабыць, адзін з найважнейшых яго запаветаў.

**— А вы, зрабіўшы фільм, напісаўшы кнігу, сказалі пра Тараса ўсё, што хацелі?**

— Ведаеце, толькі цяпер, закончыўшы фільм, я пачынаю разумець, наколькі мала зрабіў. Я меў гонар кантактаваць з навукоўцамі падчас працы — дырэктарамі музеяў Т. Шаўчэнкі Дзмітрыем Стусам, Надзеяй Арловай, мастаком Васілём Перавальскім, акадэмікам Міколам Жулінскім, паэтам Барысам Алійнікам — і атрымаў багата неймаверна цікавай інфармацыі пра творцу. Можа быць, знайду сілы зрабіць кнігу пра сям'ю Шаўчэнкі — яго братоў і сясцёр, пра іх стасункі пасля таго, як іх брат зрабіўся сталічным мастаком. Я прачытаў іх ліставанне. І гэта, паверце, вельмі кранае душу. Надзвычай чалавечыя, годныя стасункі…

**— Атачэнне Тараса Шаўчэнкі, яго сучаснікі... Наколькі шчырыя і ці ўсе шчырыя былі ў памкненнях дапамагчы яму?**

— Сучаснікі Шаўчэнкі выразна прадстаўлены ў рамане «Мастак» і ў фільме «Экспедыцыя». Большасць з іх — сапраўдная зоркавая плеяда. Асноўнае месца дзеяння — Санкт-Пецярбург, Акадэмія мастацтваў. Шаўчэнкава атачэнне — гэта, перадусім, Брулоў, Венецыянаў, Жукоўскі і Мартас, а ў высылцы і экспедыцыях — Бутакоў і Макшэеў, выдатныя вандроўнікі і публіцысты. Артыстычная «тусоўка» XIX стагоддзя была неймаверна сапраўднае «Цэхавае брацтва» (дарэчы, так называецца адзін з раздзелаў рамана). Мастакі і паэты дапамагалі адзін аднаму (хацелася, каб так было і зараз). Можа быць, раман шмат каго натхніць на добрыя ўчынкі, спагаду да іншых? Так, як творчасць шараговага правінцыяла Шаўчэнкі натхніла Брулова. І — сам Брулоў як выдатны майстар разгледзеў талент Шаўчэнкі і даў яму дарогу ў мастацтва. Гэта надзвычай важна.

**— Калі хтосьці з іншаземцаў — пісьменнікаў, мастакоў — збіраецца спрычыніцца да раскрыцця вобраза Т. Шаўчэнкі, то што б вы параілі ім?**

— Я параіў бы чытаць перасцярогі яго сяброў, таварышаў, сучаснікаў. Выйшла так, што ўсе, хто ведаў Шаўчэнку хоць бы адзін дзень, пакінулі свае ўспаміны — настолькі неардынарнай натурай ён быў, настолькі прыцягваў да сябе. Ва ўспамінах Шаўчэнка паўстае жывым, яркім, сапраўды годным чалавекам! Вывучаць жывапіс Шаўчэнкі — вялікая асалода! Акадэмічны малюнак, народная лінія — гэта рука Шаўчэнкі! І, працуючы над кнігай, мы помнілі, што пішам мастацкую біяграфію Мастака і Паэта — з аўтарскім бачаннем, пэўным суб'ектывізмам, версіфікатарствам. Толькі так можна прыцягнуць чытача — не забываючыся, што аўтар рамана таксама мае права быць Мастаком.

**Гутарыў Ігнат ШЫЧКО**




Канстанцін Канавалаў падчас здымак «Экспедыцыі» з актрысай Ірынай Шумейка, выканаўцай ролі Варвары Рэпніной.

*Унікальны праект*

# Цуд, выразаны з паперы




Упэўнена, кожны з вас хаця б раз у жыцці сутыкаўся з гэтым мастацтвам. А можа, і сам ім займаўся. Аднак такая простая і натуральная з'ява, як выцінанка, мае надзвычай багатую гісторыю і можа выкарыстоўвацца ў розных сферах. Ад простых сняжынак на вокнах, якія мы ўсе так любім выразаць і наклейваць напярэдадні Каляд і Новага года, да мультфільмаў, дзе ўсе персанажы і дэкарацыі выразаныя з паперы, і нават складаных формаў лялечнага тэатра, калі падчас прадстаўлення мастак проста на вачах гледачоў стварае і ажыўляе герояў спектакля. Падрабязна пазнаёміцца з гісторыяй гэтага віду дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а таксама навучыцца выразаць цікавыя рэчы з паперы дапаможа кніга Вольгі Бабурынай і Наталлі Сухой «Мая выцінанка», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі».

## ГІСТАРЫЧНЫ АСПЕКТ

Спецыялісты звязваюць такое шырокае распаўсюджанне выцінанкі на беларускіх, польскіх, рускіх, украінскіх і літоўскіх землях перадусім з жаданнем жыхароў упрыгожыць свой дом, а таксама з даступнасцю матэрыялу. Вядома, што самае старажытнае выкарыстанне паперы на беларускіх землях датуецца XIV ст.: менавіта ў гэты час свае лісты на паперы пісаў Вялікі князь Літоўскі Вітаўт. Ужо праз два стагоддзі паперні працавалі амаль у кожным вялікім горадзе, а матэрыял стаў даступны не толькі вышэйшаму саслоўю, але і сялянам.

Паколькі папера была таннейшай у параўнанні з тканінай (вядома, што выцінанку можна рабіць і з тонкай баваўны,ператвараючы кавалачкі простай формы ў прыгожыя фіранкі, сурвэткі), а сам выраб выразаўся вельмі лёгка і хутка, то выцінанак не шкадавалі. Праз некаторы час іх выкідвалі ці спальвалі. На жаль, беларускія этнографы досыць позна звярнулі ўвагу на гэты від мастацтва, пачалі ладзіць спецыяльныя экспедыцыі, а па іх выніках рыхтаваць адмысловыя выстаўкі. Так, у 1928 годзе супрацоўнікамі Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея была праведзена экспедыцыя на тэрыторыі сучаснага Гродзенскага раёна. Сярод здабыткаў навукоўцаў былі і выцінанкі, што выкарыстоўваліся мясцовымі сялянамі для ўпрыгожвання хат. У 1920-я гады гэтыя творы разам з іншымі дэманстраваліся на выстаўках у Беларусі, Польшчы і Літве.

Паступова выцінанка выцяснялася з вясковага інтэр'ера. З аднаго боку, і сцены перасталі ўжо фарбаваць толькі ў белы колер (раней вырабы з чорнай ці каляровай паперы выдатна кантраставалі са сценамі і ўпрыгожвалі іх), і тэкстыльныя вырабы сталі больш даступнымі для жыхара вёскі. У 1970 — 1980-я гады, калі назіралася моцнае павышэнне цікавасці да традыцыйнай спадчыны, вярнулася амаль з нябыту і выцінанка. Тады выразаннем з паперы захапіліся прафесійны фатограф і журналіст Вячаслаў Дубінка, мастакі Ніна і Генадзь Сакаловы-Кубай, Алесь Лось, Міхась Варанецкі, Юрый Малышэўскі і іншыя. А ў Маладзечне нават адкрылася адмысловая школа выцінанкі. Яна працуе ўжо пятнаццаць гадоў пад кіраўніцтвам вядомай майстрыхі Вікторыі Чарвонцавай.

## АД ТЭОРЫІ ДА ПРАКТЫКІ

Кніга «Мая выцінанка» не абмяжоўваецца экскурсам у гісторыю гэтага віду мастацтва, даследаваннем адметнасцей беларускай сялянскай выцінанкі. Гэтае выданне можа стаць добрым дапаможнікам для бацькоў, выхавальнікаў дзіцячых садкоў, а таксама настаўнікаў пачатковых класаў школы. Справа ў тым, што выцінанкі вельмі любяць рабіць дзеці. З аднаго боку, праца з паперай і нажніцамі, выразанне розных элементаў спрые развіццю дробнай маторыкі рук, з іншага — выхоўвае густ і ўзбагачае фантазію. Пагадзіцеся, нават выразаючы звычайную сняжынку на шкло, мы не можам прадбачыць, якой яна атрымаецца ў выніку. Вольга Бабурына адзначае, што дзіця бачыць сэнс не ў канчатковым выніку, а ў самім працэсе працы: «Маленькі чалавек не можа загадзя прадумаць, прадугледзець ход складання і прарэзак, каб адбыўся пэўны малюнак. Дзіця заварожвае сам акт стварэння з нейкіх простых дзірачак непаўторнага дэкору. І ўвесь працэс ператвараецца ў чаканне: зараз я зраблю цуд!»

Аднак гэта не проста выразанне з паперы нейкіх фігурак, але і больш складаны працэс. Па меркаванні аўтараў кнігі, такім чынам дзіця бачыць, як нараджаецца хараство. А элементы дэкору, зробленыя ўласнымі рукамі, дапамагаюць дзецям адчуць асабістую значнасць. Гэта і далучэнне маленькіх беларусаў да народнага мастацтва і сімвалічнага досведу чалавецтва.

Вельмі важна, што аўтары не проста распавядаюць пра тэарэтычны бок выцінанкі, яе выхаваўчую і навучальную функцыю, але і прапануюць шэраг прыкладаў, як можна выкарыстоўваць простую працу з паперай і нажніцамі падчас заняткаў з дзецьмі ў садку і малодшых класах. Тут прыведзены магчымыя тэмы заняткаў, а таксама пададзены казкі, загадкі, вершы, што могуць суправаджаць працу. У асобных главах прадстаўлены эскізы да выцінанак розных тыпаў з пералікам патрэбных інструментаў і пакрокавым апісаннем, як атрымаць патрэбны малюнак на вырazцы. З такімі падрабязнымі інструкцыямі сапраўды вельмі проста выразаць коцікa, коніка, велікоднае яйка ці нават сілуэт гарадзенскай Каложскай царквы. Тут жа падаюцца і ўзоры гатовых прадметаў з выкарыстаннем выцінанкі. Такая прыгажосць не можа не захапляць.

Выданне падказвае яшчэ адзін спосаб выкарыстання выцінанкі. Гэта мастацтва афармлення кнігі. Усе элементы ўпрыгожвання вокладкі, віньеткі каля нумароў старонак выкананы ў тэхніцы выцінанкі. Думаецца, пра такі ўдалы мастацкі ход можна казаць не толькі ў дачыненні да гэтай тэматычнай работы, але і да аздаблення кніг рознай тэматыкі. Выцінанка дапамагае стварыць адмысловы непаўторны шрыфт, распрацаваць асобныя дробныя элементы афармлення, ды і, прыкладам, беларускія народныя казкі выдатна глядзеліся б у кнізе, ілюстрацыі да якой былі б выразаныя з паперы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Майстар ператварэнняў

Творчая вечарына паэта і перакладчыка Уладзіміра Скарынкіна, арганізаваная сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і прымеркаваная да 75-годдзя творцы, адбылася днямі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.



*Вольга Пархімовіч уручае Уладзіміру Скарынкіну дыплом сябра музея.*

На пачатку імпрэзы Уладзімір Максімавіч прыняў віншаванні ад супрацоўнікаў музея: Вольга Пархімовіч, загадчыца аддзела культурна-адукацыйнай работы гэтай установы, ад імя ўсяго калектыву ўручыла юбіляру дыплом сябра музея — за працяг паэтычных традыцый Янкі Купалы. Вядучы вечарыны, галоўны дырэктар радыё «Беларусь», паэт Навум Гальпяровіч згадаў праграму «Радыёфакт» Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё, якая штораз пачынаецца з мелодыі песні «Белая Русь ты мая», напісанай заснавальнікам і шматгадовым мастацкім кіраўніком ВІА «Песняры» Уладзімірам Мулявіным на верш У. Скарынкіна. Навум Якаўлевіч падкрэсліў, што імёны, якія існавалі ў нашай літаратуры, будуць пастаянна вяртацца да чытача і зорка Уладзіміра Скарынкіна ў айчынным прыгожым пісьменстве — незгасальная, бо ўжо сваімі першымі паэтычнымі зборнікамі ён завяваў прыхільную ўвагу чытачоў.

Уладзімір Максімавіч — ураджэнец Віцебска, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы. Яго намаганнямі шэдэўры сусветнай класікі (у прыватнасці, радкі твораў Дантэ і Байрана) вельмі арганічна гучаць па-беларуску.

Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў назваў У. Скарынкіна цудоўным паэтам і сціплым, кранальным, далікатным чалавекам, адзначыўшы яго грамадскую і творчую актыўнасць ды ўменне выступаць перад чытачамі, раскрываючы душу. Так, сваёй жонцы і музе, траюраднай пляменніцы Янкі Купалы Валянціне Скарынкінай (у дзявоцтве — Луцэвіч) творца прысвяціў паэму «Вачэй святлістыя паляны». Міхась Паўлавіч уручыў віноўніку ўрачыстасці юбілейную грамату і дыплом ганаровага члена СПБ.

Малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч у прамове згадаў свае сумесныя выступленні з Уладзімірам Максімавічам у школах, вершы з кнігі У. Скарынкіна «Дазвольце ўзлёт» прачытала народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

Пісьменнік, галоўны рэдактар дзіцячых часопісаў «Вясёлка» і «Буся» Уладзімір Ліпскі падкрэсліў: трэба жыць так, каб было жыццё пасля жыцця. Менавіта так і жыве Уладзімір Максімавіч, які ўжо адбыўся як паэт, муж, бацька, дзед, сябар.Сапраўдным падарункам ад выдавецтва «Пачатковая школа» для У. Скарынкіна стала яго новая дзіцячая кніга вершаў «Дзе і як жыве Нептун?», прадстаўленая рэдактарам Міхасём Шавыркіным.

Пра перакладчыцкую дзейнасць Уладзіміра Максімавіча распавялі прафесар кафедры замежнай літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Вольга Судзілоўская і загадчык кафедры італьянскай мовы гэтай жа навучальнай установы Фёдар Міхасенка. Урывак першай главы перастворанай У. Скарынкіным пабеларуску паэмы Байрана «Дон Жуан» прадэкламаваў артыст, рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі.

З Валянцінай Скарынкінай, сваёй жонкай і колішняй аднакласніцай, былым журналістам і стыльрэдактарам газеты «Чырвоная змена», Уладзімір Максімавіч разам ужо больш як 50 гадоў. Яны выгадавалі дваіх дзяцей: сына — вядомага паэта Андрэя Скарынкіна — і дачку Таццяну, маюць двух унучак. А. Скарынкін прачытаў прысвечаны бацьку верш.

На вечарыне не абышлося і без музыкі: рамансы на словы Уладзіміра і Андрэя Скарынкіных выканалі артыстка ансамбля народнай музыкі «Бяседа» Валянціна Карэлікава і былы хормайстар НАВТ оперы і балета Беларусі, сястра жонкі юбіляра Галіна Луцэвіч.

**Яна ЯВІЧ**

# Апошні рыцар класікі

**24 чэрвеня мінулага года вядомы беларускі мастак Эдуард Рымаровіч пакінуў гэты свет. Раптоўна і нечакана, упершыню не выканаўшы замову…**




*Аўтапартрэт. 2010 г.*

Нарадзіўся творца ў 1957 годзе на Смаленшчыне, дзе і прайшло яго дзяцінства. Пазней, з-за ваеннай службы бацькі, сям'я пераедзе ў Мінск. Лейтматывам творчага шляху Эдуарда Рымаровіча стануць дзіцячыя ўражанні ад навакольнага свету, памяць пра дом сям'і Каранілавых (па мацярынскай лініі), непаўторнае хараство Смаленшчыны. Пабачыўшы талент у сыне, маці накіравала яго ў Дом піянераў на заняткі па маляванні да выдатнага педагога Сяргея Каткова. Потым была Мінская мастацкая школа імя І. Ахрэмчыка (1976). У 1981 годзе Эдуард Рымаровіч скончыў аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў). Годны вучань прафесара Гаўрыіла Вашчанкі звыкся ў сваім жыцці ўсё рабіць на «выдатна» і інстытут, вядома, скончыў з адзнакай. Падчас вучобы мастак пастаянна браў удзел у шматлікіх выстаўках, ужо тады былі бачны шматграннасць, працаздольнасць, цэльнасць творцы.

Глядзіш на пейзажы Эдуарда Рымаровіча і адчуваеш, што іх напісаў майстар краявідаў. Знаёмыя вобразы беларускай прыроды прываблiваюць чысцінёй і лёгкасцю. І нездарма нават подпіс да сваіх твораў мастак ставіў «беларускі»: Рымар — араты. Працаваў жывапісец з ранку да ночы і не любіў, калі яго турбавалі па дробязях: час, не прысвечаны творчасці, лічыў марнаваным. Ні кроплі нядбайнасці не дазваляў сабе ні ў працы, ні ў стасунках з людзьмі. Таварыскасць, прыроджаны такт, прыстойнасць і чысціня думак былі адметнымі рысамі яго характару.

У манументалісцкім рэчышчы Э. Рымаровічам зроблена шмат: роспісы для бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: «Навука мінулага і сучаснага» (1995), «Пачобут-Адляніцкі» (1986 — 1987), «Наркевіч-Ёдка» (1986 — 1987), а таксама для бібліятэкі імя Янкі Купалы: «Свята Івана Купалы» (1990) і роспіс «Купалле» (1990), вітражы для Дзіцячага цэнтра «Батлейка» (1990), для Мінскага радыятарнага завода (1992). Для Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» зроблены роспіс «Выезд на паляванне» і дыярама «Лета» (2011), «Бортніцтва» (2012). Толькі ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі знаходзіцца сем яго вялікіх габеленаў пад агульнай назвай «Гарады Мінскай вобласці» (2008).

Партрэты пішуць лічаныя мастакі: не кожны здольны адлюстраваць на палатне ўнутраны стан партрэтуемага. Эдуард Рымаровіч мог паказаць чалавека такім, які ён ёсць сёння: «Бабіна лета», «Ірына», «А. Лыскавец», «Юля з дачушкай», «Леся Кананoвіч», «Войцех Кананoвіч». Апошні пададзены на фоне лесу, са стрэльбай у руках на адпачынку пасля палявання. «Партрэт Дуніна-Марцінкевіча, «Сапега», «Усяслаў Чарадзей», «Андрэй Казімір Завіша», «Уладзіслаў IV», «Леў Сапега», «Ян Сабескі» — адрозныя сюжэтна, яны прыцягваюць трапнасцю і чысцінёй малюнка, рытмічнай пабудовай і фарбамі. Прыхільнік класічнага стылю, Э. Рымаровіч не адступаў ад правіл падачы персанажа. У творцы засталося некалькі цудоўных аўтапартрэтаў: адзін — на фоне партрэта дзеда ў вайсковым гарнітуры, на другім («Аўтапартрэт. Што ёсць што») ён з кветкамі ў руках на фоне разбуранай царквы XVI ст. Фон гістарычных карцін — адлюстраванне духоўнага свету мастака.

Карціна «Грунвальдскай бітве 1410 года прысвячаецца», напісанне якой было прымеркавана да 600-годдзя славутай перамогі ў бітве пад Грунвальдам, дэманстравалася ў Палацы мастацтва ў кастрычніку 2010-га. Подпісы на карціне ўнізе злева («Грунвальдская бітва — адна з найважнейшых бітваў сярэднявечча») і справа («Толькі ў таго, хто памятае сваю гісторыю, ёсць будучыня») гавораць пра асобу мастака. Праца над палатном цалкам паглынула Эдуарда Рымаровіча: зачытваўся кнігамі, вышукваў яскравыя вобразы. Напрыклад, татарская конніца Джалаладзіна раней не адлюстроўвалася ў работах падобнага жанру.

Для напісання гістарычных карцін творца доўга шукаў вобразы, затым выношваў, пераасэнсоўваў іх і толькі пасля ствараў палатно — адсюль і праўдзівыя сцэны з жыцця гістарычных асоб. Так была напісана карціна «Сустрэча Ягайлы і Вітаўта ў Берасці», якую можна пабачыць у Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Тэме Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны работы «Памяці Трасцянца», «Дзень Перамогі».

Галоўным арыенцірам у мастацтве для Эдуарда Рымаровіча была класіка: вечныя творы, якія маюць вялікую каштоўнасць для нацыянальнай і сусветнай культуры. У іх аснове — рэалістычныя мастацкія прынцыпы, грамадзянскія ідэалы, дэмакратычныя тэндэнцыі і росквіт мастацтва. І гэта больш складана, чым андэграўнд ці канцэптуальнае мастацтва, дзе можна страціць такое паняцце, як майстэрства.

Душа мастака была ў прыродзе, якую ён адлюстроўваў з любоўю і натхненнем. Каля дзвюх тысяч карцін, сярод якіх выдатныя пейзажы — «Каляды», «Восеньскія туманы», «Першыя замаразкі», «Вечарэе», «Цішыня», «Першы снег», «Водблiскі вечара», «Першыя промні», «Лодачка», «На рацэ Вільня», «Сакавік», «Цішыня», «Вечар на возеры Атоліна», «Дуб», «Верасень. Цёплы дзень», «З мінулага», «Лютаўскія туманы», «Вечар у Барках» ды інш. Лаканізм кампазіцыі, дакладнасць малюнка, колер, прадуманасць ракурсаў і перспектывы характэрны для творчасці Э. Рымаровіча.

На палотнах мастака часта сустракаюцца архітэктурныя помнікі, як адноўленыя, так і тыя, якіх ужо няма. Творцу хвалявала прыгажосць храмаў у візантыйскім стылі, барока, готыкі. Праз колер і асяроддзе майстар ствараў цуды. Падчас вандровак у вёсцы Райцы, што за Мірам, мастак убачыў царкву з незвычайнай кладкай. Зрабіў эцюд: зацікавіла нехарактэрная для Беларусі архітэктурная пабудова.

Амаль усе помнікі жывапісец паказвае на фоне яркай прыроды — абавязковая прывязка да мясцовасці. Цікавыя кампазіцыі, ды і самі будынкі ў карцінах «Вечар у Уле», «Рубяжэвічы» — Іосіфаўскі касцёл у стылі несапраўднай готыкі, «Першы снег. Астрашыцкі Гарадок», «Полацкі Сафійскі сабор», «Нікіцкі манастыр», «Мірскі замак» з культавымі помнікамі, якія дайшлі да нашага часу.

Эдуард Рымаровіч быў майстрам вандровак, а таксама заўзятым паляўнічым. Майстэрня творцы — сапраўдны музей, дзе шмат розных рэчаў і замалёвак на тэму прыроды, палявання.

Карціны Эдуарда Рымаровіча знаходзяцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, фондах Міністэрстваў культуры Расіі і Беларусі, Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, Шклоўскім краязнаўчым музеі, а таксама ў прыватных калекцыях замежных краін. У свой час работы мастака былі падораны прэзідэнтам Украіны, Расіі, В'етнама, Кітая, асабіста Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам работы мастака ўручаны Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Народнаму артысту Беларусі Расціславу Янкоўскаму ў сувязі з яго 80-годдзем.

Талент, дадзены Богам, прынцыповасць з выразнай творчай грамадзянскай пазіцыяй, вялікая працаздольнасць і тэхнічнае майстэрства выканання — прынцыпы, на якіх грунтавалася мастакоўскае «я».



*Дыярама «Белавежская пушча». 2012 г.*

**Галіна ФАТЫХАВА**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Яніна ШМАТКО, бібліятэкар па прафесіі і краязнаўца па духу, распавядае пра тое, як у Зэльвенскім раёне захоўваюць памяць пра знакамітых ураджэнцаў гэтых мясцін:**

— Мне давялося працаваць у сельскай, раённай і школьнай кніжніцах. Як кожны бібліятэкар, вельмі хацела, каб як мага болей людзей сябравала з кнігай. З практыкі ведала, што цікавасць да творчасці таго ці іншага пісьменніка значна ўзрастае пасля сустрэч з творцам. Як метадыст раённай бібліятэкі, рэкамендавала сельскім калегам наладжваць стасункі з вядомымі жыхарамі іх мясцовасці. А калі перайшла на працу ў школу, сама стала шукаць людзей, згодных дапамагчы мне ў прапагандзе кнігі. Вельмі плённым аказалася супрацоўніцтва з паэтам-песеннікам Уладзімірам Мазго, былым вучнем Зэльвенскай СШ № 2, у якой я працавала. Паступова творчыя спатканні з ім перараслі ў свята паэзіі і музыкі «Сакавіны».

Каб пашырыць кола знаёмстваў дзяцей з землякамі, пачала рыхтаваць завочныя падарожжы па вёсках раёна. На адно мерапрыемства запрашалі адразу некалькі знакамітых асоб. Напрыклад, калі распрацоўвалі турыстычны маршрут Зэльва — Горна — Каралін, да нас прыехалі горненцы: паэт Юрка Голуб і выкладчыца Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта Алена Таболіч. Калі сабраліся «паехаць» у Галынку, паслалі запрашэнне пісьменніку-афганцу Івану Сяргейчыку і майстру па дрэве Сяргею Худзяеву. Такім чынам адкрылі для сябе шмат цікавых людзей і вырашылі: закончыўшы асноўныя маршруты, паўторым іх ізноў і распавядзём пра іншых цікавых асоб.

Я выйшла на пенсію, і кіраўніцтва раённай газеты «Праца» прапанавала мне ўзначаліць мясцовае літаратурнае аб'яднанне «Зоры над Зальвянкай». Цяпер пастаянна арганізоўваю сустрэчы з землякамі-творцамі ўжо ў якасці пазаштатнага супрацоўніка раёнкі.

Калі ў Зэльве пачалі рыхтавацца да 600-годдзя Сынкавіцкай царквы-крэпасці і 750-годдзя гарадскога пасёлка, былі аб'яўлены конкурсы на лепшы твор пра родныя мясціны «Цуды Зэльвы» і на стварэнне гімна Зэльвеншчыны. З задавальненнем працавала з паэтамі над гэтымі тэмамі, мы падрыхтавалі ў раённай газеце некалькі выпускаў старонкі «Зоры над Зальвянкай», якія прысвяцілі Зэльве-юбілярцы.

У нашай газеце існавала рубрыка «На карце Зэльвеншчыны», матэрыялы якой расказвалі пра неперспектыўныя вёсачкі і іх нешматлікіх жыхароў. Удзячныя людзі распавядалі пра ўраджэнцаў гэтых населеных пунктаў, якія пакінулі значны след у гісторыі вобласці ці рэспублікі. Так нарадзіліся артыкулы пра дзяржаўнага дзеяча Міколу Малочку, удзельніка сустрэч на Эльбе Аляксандра Сільвашку, былога старшыню калгаса «Прагрэс» Міхаіла Кісяля...

На Зэльвеншчыне працуюць некалькі настаўнікаў, якія ўзняліся на педагагічны Алімп падчас конкурсаў «Настаўнік года». Так, у 1992 годзе ў шасцёрку мацнейшых педагогаў рэспублікі трапіла настаўніца пачатковых класаў СШ № 2 Алена Кароза. У 2003-м адным з лепшых сацыяльных педагогаў Беларусі стала Святлана Шэўчык (таксама СШ № 2), а ў 2005 годзе лепшым педагогам-выхавальнікам стала настаўніца Зэльвенскай гімназіі Наталля Гарчычка.

Нядаўна напісала артыкул пра акадэміка з Вароніч Уладзіміра Клубовіча, які зрабіў шмат адкрыццяў у галіне фізікі ўльтрагуку. Мы ганарымся нашымі землякамі і стараемся расказваць пра іх на старонках газеты «Праца».

*Музейны ўнікат*

# Машынка-«партызанка»

Ваенна-гістарычны музей імя Д. К. Удовікава быў заснаваны ў Драгічыне 14 лістапада 1990 г. па ініцыятыве Пінскага таварыства партызан-ветэранаў. Першых наведвальнікаў установа прыняла ў жніўні 1994-га.

У снежні 1995 года музею прысвоена ганаровае званне «народны», а яшчэ праз год нададзена імя Дзмітрыя Удовікава, былога начальніка штаба партызанскай брыгады імя Молатава. Пінскае таварыства былых партызан было створана ў 1988-м для аб'яднання ўсіх народных мсціўцаў, якія змагаліся з фашысцкімі акупантамі ў складзе Пінскага партызанскага злучэння пад камандаваннем Васіля Каржа.

— Менавіта Дзмітрый Удовікаў стаў першым кіраўніком гэтай грамадскай арганізацыі, савет якой знаходзіўся ў Драгічыне, — зазначае сённяшні дырэктар Ваенна-гістарычнага музея, падпалкоўнік запасу Сяргей Гранік. — У 1990 годзе Драгічынскі райвыканкам перадаў таварыству будынак, дзе і размясціўся Музей партызанскай славы (гэта першая назва), а таксама Савет таварыства партызан-ветэранаў. Пасля адкрыцця экспазіцыі музей стаў базай для правядзення мерапрыемстваў па героіка-патрыятычным выхаванні моладзі.



Сяргей Гранік дэманструе аўтамат.

17 ліпеня 1998-га перад будынкам адкрылі памятны знак «Партызанская слава». На яго гранітныя пліты нанесены назвы партызанскіх атрадаў, якія дзейнічалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Драгічынскага і Іванаўскага раёнаў, імёны іх камандзіраў. З канца 2005 года на базе музея створаны філіял гарадскога Дома культуры «Цэнтр героіка-патрыятычнага выхавання моладзі імя Д. К. Удовікава». Праўда, праз год цэнтр зачынілі, каб зрабіць рамонт і стварыць новую экспазіцыю, якую наведвальнікі ўбачылі 1 мая 2009 года (дарэчы, старую экспазіцыю захавалі ў электронным выглядзе, з ёю можна пазнаёміцца на сайце музея). У верасні цэнтр атрымаў сённяшнюю назву — Ваенна-гістарычны музей імя Д. К. Удовікава.

Пры музеі працуе падлеткавы клуб «Азімут», які займаецца ўстанаўленнем імёнаў загінуўшых абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны, якія лічацца невядомымі. Члены клуба знайшлі тры брацкія магілы часоў вайны, вызначылі 92 прозвішчы партызан і байцоў Чырвонай арміі. Вядзецца праца па пошуку і выяўленні пахаванняў перыяду Першай сусветнай вайны. Чатыры гады таму пры музеі створаны клуб гісторыкаў «Краязнаўца», выдаецца раённая гісторыка-краязнаўчая газета «Наш край — Загароддзе».

— Сёння ў экспазіцыі прадстаўлена амаль 390 арыгінальных экспанатаў і 260 фотаздымкаў, а яшчэ 720 унікальных прадметаў знаходзіцца ў фондах, рарытэты час ад часу дэманструюцца падчас выставак, — расказаў Сяргей Гранік. — У асноўным гэта фотаздымкі, дакументы, успаміны і лісты партызан. Ёсць у калекцыі асабістыя рэчы кіраўнікоў партызанскага руху, узоры зброі часоў Вялікай Айчыннай. Хто цікавіцца гісторыяй роднага краю, можа прыйсці да нас і пазнаёміцца з нашымі знаходкамі, якія захоўваюцца ў фондах, папрацаваць з дакументамі.




Партызанская машынка.

Сапраўды ўнікальны экспанат прадэманстраваў дырэктар музея. Гэта аўтамат, а дакладней, пісталет-кулямёт, які выпускалі ў асаджаным Ленінградзе. Зброя сканструявана вельмі проста, лёгкая, мае добрую хуткастрэльнасць. Выкарыстоўвалася для бліжняга бою ў горадзе і памяшканнях. На працягу 1943 — 1944 гадоў савецкія самалёты з-за лініі фронту даставілі партызанам брыгады імя Молатава каля 200 такіх аўтаматаў.

Яшчэ адной унікальнай рэччу могуць пахваліцца супрацоўнікі музея — машынкай фірмы «Кантыненталь», якая прадстаўлена ў экспазіцыі «Зямлянка». Пісар штаба партызанскай брыгады імя Молатава Масальская друкавала на ёй загады кіраўніцтва партызанскага злучэння.

— Пра гэтую машынку я даведаўся ад Юрыя Масальскага, які распавёў мне пра тое, што ў яго маці ёсць такая незвычайная рэч, прытым, у рабочым стане — жанчына працягвала працаваць на ёй, — паведаміў дырэктар Ваенна-гістарычнага музея. — Машынка і цяпер спраўная. Спецыяльна ездзіў па яе ў Гомель да маці Юрыя. Жанчына моцна расчулілася і падарыла рарытэт нашаму музею, каб яго маглі бачыць многія.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

# Спыніся, памаўчы, паслухай

Сёння, у Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны, у мемарыяльным комплексе «Буйніцкае поле» (Магілёўскі раён) пройдзе маладзёжная патрыятычная акцыя «Звон смутку».

Традыцыйна мерапрыемства пачынаецца а чацвёртай раніцы з мітынгу-рэквіема і хвіліны маўчання. Удзел у мерапрыемстве бяруць больш як тысяча чалавек, сярод якіх — прадстаўнікі органаў улады і Магілёўскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы, члены патрыятычных клубаў рэгіёна і актыў БРСМ. Акрамя мітынгу-рэквіема на Буйніцкім полі ўдзельнікі акцыі спусцяць вянкі на ваду Возера слёз, убачаць рэканструкцыю баёў і паказальныя выступленні радыёкіруемых самалётаў. У памяць пра загінуўшых воінаў будзе адслужана ліція.

Акцыю працягне ўсеагульная хвіліна маўчання, падчас якой рух на вуліцах горада будзе спынены роўна ў 12.00. У гэты час у магілёўскіх храмах прагучыць перазвон. На цэнтральных вуліцах і плошчах, а таксама ў грамадскім транспарце будуць дэманстравацца тэматычныя ролікі.

На працягу дня пройдуць інфармацыйныя гадзіны і «круглыя сталы», адбудуцца сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай, экскурсіі па месцах баявой славы, знаёмства з тэматычнымі экспазіцыямі музеяў. Акцыя «Звон смутку», накіраваная на грамадзянска-патрыятычнае і духоўна-маральнае выхаванне моладзі, спрыяе фарміраванню павагі да гераічнага і гістарычнага мінулага беларускага народа, захаванню пераемнасці пакаленняў.

Асноўны лейтматыў мерапрыемства — спыніся, памаўчы, паслухай журботны перазвон, ушануй памяць загінуўшых, успомні пра іх гераічны подзвіг у імя жыцця будучых пакаленняў. Аналагічныя акцыі адбудуцца ва ўсіх рэгіёнах Магілёўшчыны.

**Бажэна СТРОК**

# Зарніца над Бугам

Рэспубліканскі фінал ваенна-патрыятычнай гульні «Зарніца» праходзіць з 15 па 23 чэрвеня ў Паўднёвым гарадку Брэста на базе 38-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады. Урачыстае адкрыццё гульні адбылося ў мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой» у мінулы панядзелак на плошчы Цырыманіялаў.

Арганізатары лагера падрыхтавалі цікавую праграму. Знакавым мерапрыемствам стаўся ўдзел у ваенна-гістарычнай рэканструкцыі першага дня вайны, 22 чэрвеня 1941 года, у Брэсцкай крэпасці. Акрамя таго, адбыліся экскурсіі і сустрэчы з камандзірамі і афіцэрамі ваеннай часці, вайскоўцамі брыгады, вучэбныя заняткі па ваенных дысцыплінах, творчыя конкурсы ды спартыўныя спаборніцтвы і, зразумела, самае галоўнае — гульня на агульнавайсковым палігоне. Усё гэта дазволіла хлопчыкам і дзяўчынкам адчуць сябе сапраўднымі абаронцамі Айчыны. Дарэчы, масавая ваенна-спартыўная гульня «Зарніца» з'явілася ў 1967 годзе па ініцыятыве газеты «Піянерская праўда». У Беларусі яе адрадзілі ў 1998-м.

У рэспубліканскім фінале, які пройдзе ў фармаце абаронна-спартыўнага лагера, сустрэнуцца пераможцы абласных этапаў «Зарніцы» — 70 удзельнікаў у складзе 7 каманд.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Абарваная песня

Усё далей час ваеннага ліхалецця і не менш цяжкага пасляваеннага адраджэння. Падзеі тых страшных гадоў закранулі, без выключэння, лёс кожнай беларускай сям'і.

Аднойчы да нас, у народны гісторыка-краязнаўчы музей «Невычэрпная крыніца гісторыі», які працуе ў гімназіі № 25 г. Мінска, прынесла стары сшытак настаўніца матэматыкі Тамара Кажэра. Пасля смерці бацькі, Алеся Жалкоўскага, яна пераглядала яго асабістыя рэчы і знайшла гэты сшытак. А. Жалкоўскі, руплівы і таленавіты краязнаўца і журналіст, працаваў над артыкулам пра салдата-пісьменніка Пятра Калбыку, апублікаваў у лідскім друку шмат яго вершаў.

Гартаючы сшытак, адчуваеш, колькі яго ўладальніку давялося перажыць. Вокладка сцёртая, старонкі пажоўклі ад часу. У сшытку шмат вершаў на беларускай і польскай мовах.

*Кіньмо, браткі, лепей школу,*
*Надышоў апошні крэс,*
*А вазьмеце лепш пад полу*
*Аўтомат, ды гайда ў лес…*

Гэтыя радкі належаць пяру маладога тады партызана Пятра Калбыкі, які не вярнуўся ў свае родныя Шынкаўцы, бо ў няпоўныя дзевятнаццаць гадоў аддаў за Радзіму жыццё.

Хацелася б даведацца пра яго больш. Як высветлілася, ён быў вельмі жыццярадасным хлопцам, нават гарэзлівым. Пётр трымаў цесную сувязь з партызанамі, а потым папрасіўся да іх у атрад. Удзельнічаў у самых цяжкіх аперацыях, а ў хвіліны адпачынку любіў спяваць з сябрамі, чытаў ім свае вершы. Пасля вайны марыў стаць настаўнікам.

Летам 1944 года ён у радах Савецкай Арміі прайшоў Усходнюю Прусію, вызваляў Польшчу. Там, далёка ад роднай зямлі, абарвала яго жыццё куля. У кішэні гімнасцёркі знайшлі дакументы, лісты і вершы, напісаныя на беларускай мове. Усяго некалькі месяцаў не дажыў ён да Вялікай Перамогі. Не даведаўся, што прадстаўлены да медаля «За адвагу».

Здаецца, мы ўсё ведаем пра паэзію і паэтаў Вялікай Айчыннай вайны. Ёсць Мемарыяльная зала ў Доме літаратара, дзе змешчаны фотаздымкі гэтых творцаў, выдадзены асобныя і калектыўныя паэтычныя зборнікі. Аднак канец XX стагоддзя прынёс Беларусі яшчэ адну забытую, дасюль нікім не згаданую творчую асобу — Пятра Калбыку.

Гэты сшытак шмат гадоў берагла маці паэта Наталля Калбыка. Падчас фашысцкай акупацыі вучыўся ў беларускай настаўніцкай семінарыі, але закончыць яе не ўдалося. Там юнак напісаў нямала вершаў. У іх выразна бачыцца захапленне роднай зямлёй, вера ў яе лепшую будучыню.

Нямала ў Пятра Калбыкі шчымлівых і трывожных радкоў. У вершы «Загінуў наш цвет» (твор прысвечаны загінуўшаму сябру) аўтар асуджае забойцаў:

*За шчырую працу,*
*За родную справу,*
*Вы, злыдні-бандыты,*
*Зрабілі расправу.*

Боль паэта гучыць і ў іншых творах. Сшытак, на жаль, застаўся недапісаны, а песня маладога аўтара — абарванай.

**Вольга ШПАКЕВІЧ,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 25 г. Мінска**


Я пачынаю намаўляць вучняў, што кінулі семінарыю і ўступілі ў рады партызан. Я таксама пішу адозву да вучняў у вершаванай форме:
„Кіньмо, браткі, лепей школу,
Надышоў апошні крэс...
А вазьмеце лепш пад полу
Аўтомат, ды гайда ў лес.
І з гушчэнь сытым пакату
Меткім дожджыкам — свінцом
Хай абходзіць нашу хату,
— Неразгаданым канцом...
Пісаў я многа і не напрасна
~~Большая частка вучняў пайшлі ў~~
партызаны. Я таксама
17.IV.1944 г. уступаю ў партызанскую
дыверсійную групу „Асобага
Назначэння" капітана Таранава,
ў якой знаходзіўся да прыходу
Чырвонае Арміі.

*Старонка са сшытка Пятра Калбыкі.*

# Возера творчасці

Пабачыў свет зборнік Надзеі Парчук «Берагі надзеі». Кніга выдадзена брэсцкім выдавецтвам «Альтэрнатыва». На вокладцы — фотаздымак роднай рэчкі Стыр, апетай аўтаркай у кнізе.

Імя Надзеі Парчук добра вядома не толькі аматарам паэзіі Берасцейшчыны, але і ўсёй Беларусі. «Берагі надзеі», як і папярэднія зборнікі, кранаюць чыстай, задушэўнай мовай. Шмат твораў прысвечана вёсцы Ладараж, дзе нарадзілася Надзея Мікалаеўна, Палессю, дбайным, працавітым людзям. Кніга мае дзевяць раздзелаў: сем уласна паэтычных, невялічкі раздзел «Афарызмы» і «Пераклады з рускай мовы». Прыемна было прачытаць добра вядомыя творы рускіх класікаў у беларускім гучанні. Уласныя ж творы Надзеі Мікалаеўны ўражваюць глыбінёй думак, шчырасцю і цеплынёй пачуццяў. У адным з вершаў паэтэса прамаўляе:

*На свеце нельга жыць без дабрыні —*
*Ні дня. Ні нават аднаго імгнення…*

Вершы прасякнуты дабрынёй, мудрасцю, святлом. Творчасць Надзеі Мікалаеўны можна было б параўнаць з вялікім возерам, аздобленым векавечнымі барамі, бярозавымі гаямі ды квяцістымі лугамі.

**Галіна БАБАРЫКА**

# Бачыў і маляваў вайну

У межах выстаўкі «Подзвігу салдата — паклонімся», якая праходзіць у Лепельскім раённым краязнаўчым музеі, упершыню экспануюцца работы мастака-франтавіка Валянціна Барміна, якія ён перадаў у дар музею ў 1984 — 1986 гадах.

Навуковыя супрацоўнікі Лепельскага музея разам з калегамі з Пермскай дзяржаўнай мастацкай галерэі, Новасакольніцкага раённага краязнаўчага музея, Кінгісепскага гісторыка-краязнаўчага музея (Расійская Федэрацыя) сабралі біяграфічныя звесткі пра гэтага бескарыслівага чалавека, які абраў адзінай тэмай сваёй творчасці Вялікую Айчынную вайну.

Нарадзіўся Валянцін Аляксандравіч у 1915 годзе ў горадзе Перм. Скончыў Пермскі мастацкі тэхнікум. Ваенная тэма зацікавіла В. Барміна яшчэ ў маладосці: яго дыпломная работа мела назву «Наступленне чырвоных на Калчака». А ў суровыя саракавыя ён і сам прайшоў тысячы кіламетраў франтавых дарог. На Волхаўскім фронце камандаваў кулямётным узводам, удзельнічаў у прарыве блакады Ленінграда, баях на тэрыторыі Наўгародскай і Пскоўскай абласцей, Эстоніі і Латвіі.

Пасля вайны Валянцін Бармін пераехаў у г. Новасакольнікі Пскоўскай вобласці. Яго прафесійная дзейнасць не была звязана з выяўленчым мастацтвам, але ўвесь вольны час ён прысвячаў адлюстраванню мужнасці і гераізму савецкага народа. Шмат падарожнічаў у пошуках натхнення для творчасці. Завітаў ён і ў Лепель, дзе, напэўна ж, наведаў нядаўна створаны музей, у якім значнае месца адводзіцца тэме Вялікай Айчыннай. Валянцін Аляксандравіч абраў яго адным з месцаў захоўвання сваіх работ.

Увогуле, усе карціны мастак дарыў краязнаўчым, мастацкім і школьным музеям, каб іх маглі пабачыць у першую чаргу дзеці. Яго работы захоўваюцца ў музеях Масквы, Ленінграда, Віцебска, Вялікіх Лук, Пскова, Новасакольнікаў, Невеля… Памёр мастак у 2001 годзе. Напярэдадні 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у нашай установе з'явілася магчымасць прадставіць работы майстра наведвальнікам.

Творы мастака адрозніваюцца асаблівай праўдзівасцю, эмацыянальнасцю, маюць адмысловую прыцягальную сілу, бо створаны чалавекам, які ведаў пра вайну не з кніг і фільмаў, а з уласнага досведу.

**Юлія ПУХАВІЦКАЯ,**
**навуковы супрацоўнік Лепельскага раённага краязнаўчага музея**



*Валянцін Бармін «Вызваленне».*

# Падарожжа ў эпоху баляў

На пачатку чэрвеня ў будынку флігеля Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу быў прэзентаваны выставачны праект «Куфэрак». Экспазіцыю падрыхтаваў Музей гісторы горада Мінска сумесна са студыяй рэканструкцыі гістарычнага танца «Версаль».

Да адкрыцця была прымеркавана і святочная праграма: выступалі танцоры, гралі музыкі, праводзіліся экскурсіі, ладзіліся тэматычныя фотасесіі.

Выстаўка «Куфэрак: стагоддзе прыгажосці» — вынік працы энтузіястаў, захопленых вывучэннем культуры XIX стагоддзя і гісторыяй касцюма. У экспазіцыі прадстаўлены рэканструкцыі штодзённых, прагулачных, бальных і вячэрніх гарнітураў — ад ампірных да мадэрну. Гэтыя строі маглі апранаць жыхары гарадоў, якія знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў XIX стагоддзі.

Узноўленыя касцюмы шыліся для баляў і танцавальных вечароў, гульняў, пікнікоў і публічных выступленняў. Эскізы гарнітураў выконваліся па матывах арыгінальных мадэлей адзення той эпохі. Крыніцамі інфармацыі служылі творы мастацтва і модныя часопісы XIX стагоддзя. Мадэлі вырабляліся з максімальна магчымым выкарыстаннем натуральных тканін і асаблівасцей старадаўняга крою.

Выстаўка прадастаўляе ўнікальную магчымасць перанесціся ў эпоху баляў і рамантыкі.

У межах праекта «Куфэрак» на працягу чэрвеня запланаваны шэраг мерапрыемстваў. Кожную суботу ў 15.00 праводзіцца тэматычная праграма: лекцыі па гісторыі касцюма, побыту XIX стагоддзя, майстар-класы па танцах ці творчыя вячоркі. Па серадах і суботах — экскурсіі ад арганізатараў выстаўкі (папярэдні запіс па тэлефоне +375-17-285-19-70).

Экспазіцыя будзе працаваць да 28 верасня.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Музыка, што паяднала народы



*Ансамбль гарманістаў «Карытнянскія музыкі» з Асіповіцкага раёна.*

**Міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» — адзін з найстарэйшых у краіне. Сёлета ён прайшоў у Паставах ужо ў сямнаццаты раз і сабраў на адной сцэне самабытныя калектывы з усіх абласцей Беларусі, а таксама Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі, Славакіі, Венесуэлы, Малдовы і Грузіі.**

Музычнае свята бярэ свой пачатак у 1987 годзе, калі ў Віцебску адбыўся І Рэспубліканскі фестываль «Іграй, гармонік!». Двойчы ён праходзіў у Магілёве, а з 1992 года стала прапісаўся на Пастаўскай зямлі, якая здаўна славіцца сваімі народнымі талентамі. З кожным годам гэты фэст прыцягвае ўсё больш і больш удзельнікаў, і ў 1996-м яму прысвоены статус міжнароднага.

За гады існавання фестываль займеў сваю адметную гісторыю, сфарміраваў цікавыя традыцыі. У ім узялі ўдзел сотні музычных калектываў — беларускіх і замежных, прафесійных і аматарскіх, знакамітых і малавядомых. З кожным годам іх творчы ўзровень расце — гэта адзначаюць не толькі члены журы, але і пастаўскія гледачы.

Сёлетні фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік» супаў са святкаваннем 605-годдзя Паставаў. Гэтая акалічнасць унесла дапаўненні ў праграму: разам з уласна фестывальнымі мерапрыемствамі адбыўся шэраг іншых, прысвечаных Дню горада.

Трохдзённае свята творчасці распачалося літаратурнай імпрэзай «Паэтаў спеўная душа». Падчас яе праявядзення ўласныя творы прачыталі не толькі мясцовыя майстры прыгожага слова, але і госці з суседняга Браслаўскага раёна — члены мясцовага літаб'яднання «Ветразь надзеі».

Наступнай падзеяй стала адкрыццё фотавыстаўкі «Горад. Гісторыя. Людзі», якая ладзілася ў Доме рамёстваў і прысвячалася Паставам. У пятніцу, 13 чэрвеня, адбылося першае знаёмства з гасцямі фестывалю. Пры поўным аншлагу ў раённым Доме культуры выступіў Дзяржаўны ансамбль песні і танца Аджарыі. У складзе калектыву, заснаванага амаль стагоддзе таму, — прафесійныя спевакі, танцоры і музыканты, у рэпертуары — узоры фальклорнага мастацтва з усіх рэгіёнаў Грузіі. Акапэльныя спевы, каларытныя інструменты і касцюмы зрабілі канцэрт па-сапраўднаму яркім і запамінальным.

Афіцыйнае адкрыццё фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік» прайшло 14 чэрвеня. На ўрачыстай цырымоніі выступілі старшыня Пастаўскага раённага выканаўчага камітэта Віктар Гутараў і намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік, які зачытаў прывітальны ліст ад імя міністра. А затым на плошчы багатымі караваямі, шчырымі ўсмешкамі і апладысментамі арганізатары фестывалю і сотні гараджан сустракалі афіцыйныя дэлегацыі і творчыя калектывы. Усе яны прайшлі традыцыйны маляўнічы абрад кумлення і такім чынам сталі сябрамі на ўсё жыццё.

У суботу ў раённым Доме культуры адбылося ключавое мерапрыемства міжнароднага фестывалю — традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?". Яго журы чарговы раз узначаліў народны артыст Беларусі, прафесар, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі краіны Міхаіл Казінец.

Творчыя спаборніцтвы прайшлі ў дзвюх узроставых катэгорыях — дзіцячай і дарослай. На адной сцэне выступалі прафесійныя і самадзейныя музыканты, спевакі і танцоры з усіх куточкаў Беларусі, госці з блізкага і далёкага замежжа. На працягу чатырох гадзін яны імкнуліся перайграць, пераспяваць і ператанцаваць адно аднаго, данесці да гледача свой нацыянальны каларыт, здзівіць журы і публіку яркімі касцюмамі і віртуозным валоданнем інструментам.

Менавіта на гэтым конкурсе вырашыўся лёс галоўных узнагарод фестывалю. Спецыяльным дыпломам лаўрэата І ступені адзначаны народны аркестр беларускіх народных інструментаў Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа, фальклорны ансамбль «Цэранкуца» сяла Старая Фладыцоя (Малдова) і ансамбль «Пут веіні» рыжскай музычнай школы імя Аўгуста Дамброўскага (Латвія). Лаўрэатамі другой ступені сталі ансамбль народных інструментаў "Сям'я Ігауню" з Рээкненскага раёна (Літва) і народны калектыў "Куране" Камышынскага раёна Курскай вобласці (Расія). Дыпломы трэцяй ступені атрымалі народная музычная капэла «Ігуменскія крыніцы» (г. Чэрвень), народны інструментальны ансамбль «Сустрэча» (г. Лепель), народны ансамбль народных інструментаў «Вясёлка» (г. Гомель), ансамбль гарманістаў «Карытнянскія музыкі» (Асіповіцкі раён), фальклорны ансамбль "Гастаўта" (г. Рокішкіс, Літва).

Адначасова вялікае свята таленту і творчасці разгарнулася на цэнтральнай гарадской плошчы. На працягу ўсяго дня тут дзейнічаў «Горад майстроў», «жыхарамі» якога сталі народныя майстры і клубы нацыянальнай кухні Віцебшчыны. На плошчы прайшоў і аглядконкурс сельскіх панадворкаў «Пастаўшчына гасцінная», на якой свае творчыя і кулінарныя здольнасці прадэманстравалі ўсе 10 сельсаветаў раёна.

Адзін за адным мяняліся артысты на ўсталяванай у цэнтры горада сцэне. Тут адбыўся тэатралізаваны канцэрт «Дзяцінства — планета мары», музычная праграма з удзелам беларускіх і замежных калектываў, музычна-тэатралізаванае прадстаўленне «Пастаўскі баль», забаўляльная праграма для моладзі.

Асобнай фестывальнай пляцоўкай стаў палац Тызенгаўзаў — адна з галоўных славутасцей Паставаў. У XIX ст. тут знаходзіўся адзін з найпрыгажэйшых у Еўропе арніталагічны музей, карцінная галерэя з работамі сусветна вядомых мастакоў, бібліятэка з рэдкімі помнікамі польскага пісьменства.

Першая і Другая сусветныя войны «паспрыялі» занядбанню палаца. Многія каштоўнасці, якія шляхетны род збіраў гадамі і нават стагоддзямі, былі разрабаваны і вывезены за мяжу.

Сёння палац з'яўляецца корпусам цэнтральнай раённай бальніцы. І яе галоўны ўрач Уладзімір Чакавы, і раённыя ўлады зацікаўлены ў аднаўленні ўнікальнага будынка. На працягу некалькіх апошніх гадоў яны ўдзельнічалі ў міжнародным праекце «Заахвочванне турызму па абодва бакі граніцы Літвы і Беларусі». Яго мэтай было павышэнне даступнасці і прывабнасці культурна-гістарычнай спадчыны ў Рокішскім (Літва) і Пастаўскім раёнах. Агульны бюджэт праекта склаў больш як 700 тысяч еўра, палова іх асвоена беларускім бокам. Выдзеленыя Еўрасаюзам сродкі накіраваны на рамонт падземных памяшканняў палаца Тызенгаўзаў і стварэнне там музейнай экспазіцыі раённага краязнаўчага музея. Яе доўгачаканае адкрыццё таксама адбылося 15 чэрвеня.

Працягам урачыстасці стаў традыцыйны канцэрт «Музыка беларускіх палацаў і сядзіб» ансамбля салістаў Белдзяржфілармоніі. А ў нядзелю іх можна было паслухаць у пастаўскім касцёле Антонія Падуанскага.

Заключны гала-канцэрт прайшоў 16 чэрвеня ў амфітэатры гарадскога парку, куды ўсе госці і ўдзельнікі свята накіраваліся тэатральным шэсцем. Пасля двухгадзіннага выступлення калектываў адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне ўсіх лаўрэатаў і дыпламантаў фестывалю.

Члены журы не скупіліся на цёплыя словы і ў адрас выступоўцаў, і ў адрас арганізатараў.

— Дзякуй, што вы ўсе разам правялі такое маштабнае і найцікавейшае свята, — звярнуўся да іх былы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь, аўтар праекта і ініцыятар правядзення фестываляў «Звіняць цымбалы і гармонік» Тадэўш Стружэцкі. — Гэтыя тры дні падарылі выключную магчымасць паказаць не толькі сваю нацыянальную музычную культуру, але і з радасцю азнаёміцца з музычнай спадчынай розных краін свету. Напружаныя дні падрыхтоўкі да мерапрыемства акупіліся станоўчымі эмоцыямі гледачоў і саміх удзельнікаў. Спадзяюся, што ў наступным годзе мы зноў сустрэнемся тут, на гасціннай пастаўскай зямлі, каб разам акунуцца ў радасную атмасферу народнай творчасці.

**Іна СНЯЖКОВА,**
**фота аўтара**



*Ганчар з вёскі Навасёлкі Пастаўскага раёна, гаспадар аграсядзібы «Акарына» Сяргей Шчэрба знаёміць гасцей фестывалю са сваімі вырабамі.*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2490.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 19.06.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2394.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686